ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 23, 24 (2425, 2426) 29 чэрвеня, 6 ліпеня 1995 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

Нават зараз, калі дзяржаўныя межы сталі падзяляць блізкія па духу і гісторыі народы, людзі імкнуцца захаваць агульную культурную прастору і добрыя сяброўскія адносіны. Аб гэтым сведчаць падзеі, якія адбыліся ў Мінску 13 чэрвеня. У гэты дзень у Нацыянальнай бібліятэцы Літоўская Республіка перадала Беларусі факсіміле Тураўскага Евангелля XI стагоддзя, якое з'яўляецца найстаражытным помнікам пісьменства на тэрыторыі Беларусі. Урачыстая атмасфера падзеі не перашкодзіла прысутным павесці гаворку аб лёсе беларускай культуры і гісторыі, які вельмі падобны з цяжкім лёсам нашых мастацкіх помнікаў, што, згубіўшыся ў чужых краях, толькі зараз вельмі марудна, ды і то ў выглядзе факсімільных выданняў, а не арыгіналаў вяртаюцца дамоў.

У той жа дзень у музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы графічных твораў народнага мастака Літвы Стасіса Красаўскага з графічнага альбома "Вечна жывыя".

Трэба заўважыць, што ўсе прадстаўленыя на выставе работы былі перададзены Літоўскай Рэспублікай у дар нашаму музею.

На ўрачыстасцях прысутнічалі міністр замежных спраў Беларусі спадар У. Сянько, намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь спадар І. Карэнда, пасол Рэспублікі Беларусь у Літве спадар Я. Вайтовіч, пасол Літвы ў Беларусі спадар В. Баўбліс і іншыя.



## Петрусю БРОЎКУ споўнілася б 90...



Сённяшнія школьнікі ў падручніках па беларускай літаратуры ў раздзелах, дзе расказваецца аб творчасці Петруся Броўкі, могуць прачытаць: беларускі паэт і грамадскі дзеяч, народны паэт БССР [1962]. Манументальная эпічнасць узбагачаецца ў вершах унутраным лірызмам... Броўка -- паэт высокага грамадзянскага пафасу, мастак з ярка выяўленай рамантычнай паэтыкай... Уласна кажучы, усё так і ёсць. Аднак колькі б сухіх і правільных слоў ні пісалі пра гэтага вялікага паэта, прыгадаеш пяшчотныя, шчымліва-балючыя радкі яго "Александрыны" і зразумееш, што ў любым, нават самым невялікім сваім вершы паэт так ці інакш расказвае пра сябе значна больш, чым самы поўны артыкул у Энцыклапедыі ці іншым літаратурным даведніку.

Броўка сапраўды быў вялікім рамантыкам, які змог праз усё нялёгкае жыццё пранесці ў душы незвычайнае адчуванне маладосці і радасці ад таго, што існуеш на гэтым свеце, бачыш сонца, кахаеш і нават пакутуеш ад гэтага кахання. Паэмы, вершы, лібрэта да опер, пераклады на беларускую мову Маякоўскага і Шаўчэнкі, Твардоўскага і Байрана -- вось спадчына, пакінутая нам паэтам, які прагнуў, каб ведалі і шанавалі мы родную мову і культуру і не забываліся пра іншыя. Мне чамусьці падаецца, што за ўсё, што робяць для нас паэты, патрэбна ім толькі адно -- каб мы памяталі іх і тое, што яны ў геніяльнай сваёй шчодрасці даруюць нашчадкам. Давайце ў гэтыя дні, калі святкуецца 90-годдзе з дня нараджэння вялікага беларуса Петруся Броўкі, звернемся зноў да яго выдатнай асобы і дзіўнай творчасці.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

*(Артыкул Алены ВАСІЛЕВІЧ пра Петруся БРОЎКУ і герояў яго твораў чытайце на 6-й стар.).*

**Лявон Шыманец васьмігадовым хлапчуком разам з сям'ёй быў вывезены ў Нямеччыну ў 1944 годзе. Вучыўся, атрымаў адукацыю і жыве дагэтуль у Францыі. Падчас перабудовы ён прыязджае на Беларусь, дзе шукае шляхі для супрацоўніцтва, каб прыспешыць эканамічныя рэформы на сваёй эт[illegible]й радзіме. Дзякуючы яго намаганням пачала здзяйсняцца [illegible]ая на Беларусі праграма па мадэрнізацыі магістралі Брэст--Масква.**

**Напярэдадні рэферэндуму наш карэспандэнт сустрэўся з Лявонам ШЫМАНЦОМ падчас яго чарговага візіту на Беларусь, гутарка з якім і прапануецца ніжэй.**

*ПОГЛЯД ЗБОКУ*

# ЦІ НЕ ВЫБУХНЕ НОВАЯ ХВАЛЯ ЭМІГРАЦЫІ?

*-- Спадар Шыманец, пра жыццё беларусаў у Францыі сёння мала што вядома. Раскажыце, калі ласка, якія яны, французскія беларусы, чым і як жывуць. Ці ёсць якія суполкі?*

-- Дагэтуль яшчэ існуе беларускі саюз "Хаўрус", які быў утвораны ў 1951 годзе. Калі мы прыехалі ў Францыю пасля заканчэння вайны, беларусаў там было даволі многа: у адным Парыжы налічвалася каля 500 сямей. Кожны тыдзень шмат хто з іх наведваў беларускую уніяцкую царкву ў Парыжы, заснаваную Львом Гарошкам, вакол якой гуртавалася беларускае жыццё. Было і яшчэ адно асяроддзе -- беларусы, якія гуртаваліся вакол Абрамчыка, прэзідэнта БНР, яно мела больш палітычны накірунак. Цяпер ужо не скажаш, што ў Парыжы віруе нейкае грамадскае жыццё. Тыя, хто стварыў арганізацыю, памерлі. Шмат хто выехаў. Тыя, што засталіся, сустракаюцца разы чатыры на год па святах, ці з тымі, хто прыязджае з Беларусі.

*-- Чым патлумачыць, што беларусы пакідалі Францыю і мусілі ехаць за акіян?*

-- Хутчэй за ўсё гэта звязана з візітам у Францыю кіраўніка савецкай дзяржавы Хрушчова ў 1961 годзе. Напярэдадні з дэ Голем была дамоўленасць, што ўсе савецкія эмігранты на час візіту будуць вывезены на месяц на Корсіку "адпачыць". Была ўтворана такая рэзервацыя. Там былі ўкраінцы, грузіны, рускія і іншыя нацыянальнасці. Больш таго, было шмат сямей, ужо змешаных з французамі, якія займалі даволі высокія пасады. Такім чынам, зрабіўся скандал, і прэса ўсё гэта падрабязна асвятляла. Французы былі вельмі абураны, бо гэта было не што іншае, як парушэнне правоў чалавека. Менавіта пасля гэтага і пачаўся масавы ад'езд у Амерыку і Канаду, бо людзі баяліся, што наступным крокам дэ Голя, які вельмі добра ставіўся да СССР, будзе іх вяртанне ў Савецкі Саюз. Тыя, хто не паспеў займець сям'ю або авалодаць нейкай маёмасцю (прыблізна тры чацьвёртыя), з'ехалі.

*-- Вы пакінулі Беларусь маленькім хлапчуком. Дзіцячыя ўспаміны самыя ўражлівыя. Што вам згадваецца з тых далёкіх гадоў на Бацькаўшчыне?*

-- Гэта вельмі жудасныя ўспаміны. Сям'я жыла ў Баранавічах. Наш дом стаяў побач з тым месцам, дзе немцы ўтварылі яўрэйскае гета. Аднойчы я прачнуўся і па самую ранічку глядзеў у вакно. На маіх вачах фашысты адзін за адным забівалі людзей. Дагэтуль я бачу жанчыну, якая з дзіцёнкам на руках, стоячы на каленях, маліла эсэсаўца лёгка здагадацца аб чым. Яна ўсё імкнулася зняць пярсцёнак з пальца, а ён біў і біў яе па галаве прыкладам. За тую ноч фашысты знішчылі 10 тысяч яўрэяў, а ўсё насельніцтва Баранавічаў тады складала 20 тысяч чалавек.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

# ДЗВЕРЫ, АДЧЫНЕНЫЯ ДЛЯ ЧУЖЫХ

**ІНТЭРВ'Ю З НАМЕСНІКАМ ДЫРЭКТАРА ДЗЯРЖАЎНАЙ МІГРАЦЫЙНАЙ СЛУЖБЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ЭКАНАМІСТАМ-ПАЛІТОЛАГАМ, КАНДЫДАТАМ ГІСТАРЫЧНЫХ НАВУК Уладзімірам БЕЛАЗОРАМ.**

**-- Уладзімір Якаўлевіч, я ведаю, што вы выстаўлялі сваю кандыдатуру на выбарах у Вярхоўны Савет...**

-- І не прайшоў...

**-- І тым не менш, калі падчас выбарчай кампаніі вам задавалі пытанне, колькі год патрэбна, каб вывесці рэспубліку з крызісу, -- што вы адказвалі?**

-- Я лічу, што для гэтага патрэбна, як мінімум, сем--дзесяць гадоў, але мы ўвогуле не выйдзем з гэтага крызісу, калі не ажыццявім структурную перабудову нашай эканомікі, не зменім прыярытэты. Так, нельга нам больш цягнуць грошы з сельскай гаспадаркі, яна і так ужо на каленях. Трэба звярнуць увагу на наш элітны ваенна-прамысловы комплекс, які зараз выпускае відэльцы і нажы, замест таго каб наладзіць вытворчасць сродкаў вытворчасці, што мы зараз набываем за мяжою. Трэба ў рэшце рэшт навучыцца выкарыстоўваць наша геапалітычнае становішча...

**-- Дарэчы, менавіта яно і абумоўлівае тое цяжкае міграцыйнае становішча, якое склалася ў рэспубліцы...**

-- Так, становішча сапраўды цяжкае. Ну вось вам прыклад -- зусім нядаўна ў Беларусь у грузавіках-фурах прывезлі 39 іранскіх сем'яў. Узялі з іх за правоз па пяць тысяч долараў з дарослага і па дзве з палавінай за дзіця, высадзілі на вуліцы, сказаўшы: "Вы ў Германіі, заўтра сустракаемся на гэтым жа месцы, атрымаеце пашпарты і візы і -- ляціце ў Канаду".

А пачыналася ўсё гэта зусім бяскрыўдна шмат год таму, калі ў нашых вышэйшых навучальных установах з'явіліся першыя студэнты з Афганістана, усяго дзвесце чалавек. Зараз іх ужо каля дзвюх тысяч, а гавару я толькі пра тых, хто афіцыйна зарэгістраваўся. Увогуле ж, па падліках нашай службы і органаў МУС, зараз на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца каля 400 тысяч замежных грамадзян-нелегалаў, якія не маюць афіцыйнага дазволу на пражыванне на тэрыторыі нашай рэспублікі. Далучыце сюды яшчэ 25 тысяч бежанцаў, якія зарэгістраваліся. Праўда, жыццё паказвае, што лічбы гэтыя вельмі ўмоўныя: згодна з афіцыйнай статыстыкай, з Чэчні да нас прыбыло ўсяго 75 чалавек, у той час як мы сёння ведаем, што ў Брэсце ёсць цэлая вуліца, асноўнае насельніцтва якой складаюць чэчэнцы.

Інфармацыя сярод мігрантаў разыходзіцца вельмі хутка, і яны імкнуцца ў Беларусь, бо добра ведаюць: тут пакуль што няма сур'ёзнай сацыяльнай напружанасці, да прыезджых ставяцца цярпліва і за межы рэспублікі не выдвараюць. Вось і цягнуцца зараз сюды бежанцы з усіх "гарачых кропак" СНД і іншых краін, у чым ім і дапамагаюць прафесійныя пасрэднікі. І калі зараз не выявіць каналы нелегальнага правозу людзей на тэрыторыю Беларусі, то цяжка нават прыблізна прадказаць, колькі ў бліжэйшы час у нас з'явіцца імігрантаў самых розных нацыянальнасцей.

**-- Ці можна сёння гаварыць, што нелегальная перакідка людзей на Беларусь з'яўляецца добра наладжаным бізнесам?**

-- Так, бо сюды за грошы прывозяць людзей з іншых дзяржаў і ператвараюць рэспубліку ў адстойнік для тых, хто па нейкіх прычынах не можа жыць у іншых мясцінах ці хоча любымі сродкамі трапіць на Захад. У Беларусь імкнуцца ўсе міграцыйныя патокі з Паўднёва-Усходняй Азіі, рэспублік Закаўказзя і іншых краін у спадзяванні нелегальна, з фальшывымі пашпартамі перасячы мяжу, і калі ў іх гэта не атрымліваецца, яны зноў-такі асядаюць тут, на Беларусі. Ёсць і іншыя каналы пранікнення замежных грамадзян на нашу тэрыторыю. Так, апошнім часам узмацніўся прыток студэнтаў з Пакістана ў Гродзенскі медыцынскі інстытут. І калі раней іх вучобу аплачвала дзяржава, зараз заключаюцца кантракты на індывідуальнае навучанне студэнтаў. Я дапускаю магчымасць таго, што за гэтай цікавасцю да вывучэння медыцыны ў грамадзян Пакістана крыецца жаданне легальна трапіць на тэрыторыю Беларусі з мэтай далейшага пранікнення на Захад. Да таго ж, зусім нядаўна я даведаўся, што нашы камерцыйныя навучальныя ўстановы ў мэтах атрымання валютнага прыбытку заключаюць кантракты на навучанне студэнтаў з Паўднёва-Усходняй Азіі, Кітая, Сірыі без афіцыйнага дазволу на іх уезд і пражыванне тут. Ва ўсім свеце з давён-даўна вядома, што гэта праверaны і адпрацаваны шлях пранікнення ў іншыя краіны.

**-- Ці не атрымаецца так, што ў нас хутка з'явяцца кітайскія, в'етнамскія, самалійскія кварталы, як гэта атрымалася ў Амерыцы ці Галандыі?**

-- Вельмі верагодна, прычым, я добра ведаю гэтую з'яву і магу сказаць, што такія людзі імгненна адаптуюцца да любых абставін і цалкам не лічацца з мясцовымі законамі. З'яўленне вялікай колькасці імігрантаў, як правіла, выклікае рэзкае пагаршэнне сацыяльнай і крымінагеннай сітуацыі, абвастраецца праблема правозу і распаўсюджвання наркотыкаў. І вельмі магчыма, што наша талерантная Беларусь сутыкнецца з усплёскам расізму, як гэта было яшчэ зусім нядаўна з курдамі ў Германіі. І праблемы нашай рэспублікі будуць адчуваць на сабе і іншыя краіны, так, напрыклад, я дапускаю магчымасць таго, што зараз у Чэчні ваявалі прадстаўнікі Эфіопіі, Афганістана, Пакістана, якія вучыліся ў нашых ваенных навучальных установах. Ім няма дзе працаваць, а ў дудаеўскіх атрадах добра плацяць...

**-- Што, на ваш погляд, зменіцца пасля таго, як з 1 ліпеня пачне дзейнічаць прыняты Закон аб бежанцах?**

-- Гэты Закон вызначыць прававую працэдуру вырашэння пытання аб прадастаўленні статуса бежанца. Думаю, што з зарэгістраваных сёння 25 тысяч бежанцаў афіцыйны статус атрымаюць толькі 100--150 чалавек.

**-- А што ж тады рабіць з усімі астатнімі?**

- У тым жа і справа, што ні механізма выдварэння, ні механізма дэпартацыі ў нас дагэтуль не існуе. І чым даўжэй замежны грамадзянін, які трапіў на тэрыторыю Беларусі, тут застанецца, тым цяжэй яго потым адсюль вывезці. Але паколькі няма закона аб міграцыі, сёння гэта ўвогуле нельга ажыццявіць. Нават калі ўявіць, што заўтра Прэзідэнт падпіша ўказ аб выдварэнні з тэрыторыі Беларусі ўсіх замежных грамадзян, якія трапілі сюды без дазволу адпаведных органаў, і мы пачнем масава ажыццяўляць гэты працэс, нас могуць абвінаваціць у парушэнні правоў чалавека. Калі б у нас было сваё міграцыйнае заканадаўства і структуры, якія б прафесійна працягвалі працаваць з нелегаламі, то ніхто б не змог папракнуць нас, што мы жорстка і бесчалавечна абыходзімся з замежнымі грамадзянамі, якія нелегальна прыбываюць да нас, бо мы дзейнічалі б па закону сваёй краіны. У даным жа выпадку ў нас няма прававой асновы для вырашэння гэтай праблемы. З пункту гледжання міграцыі, Беларусь аказалася самай слабай у геаграфічным і самай не абароненай у прававых адносінах краінай.

**-- Мяняць месца жыхарства ўласціва ўсім людзям. А як у гэтым агульным працэсе выглядаем мы, беларусы?**

-- Усё больш і больш беларусаў стала пакідаць сваю краіну. Знізіўся ўзровень жыцця, і людзі ад'язджаюць адсюль. Масква, ды і іншыя гарады Расіі сёння ахвотна прымаюць вадзіцеляў тралейбусаў, аўтобусаў, трамваяў, работнікаў метро. Многа добрых спецыялістаў ад'язджаюць за заходнюю мяжу. Але ў той жа час у рэспубліку пачалі імкнуцца этнічныя беларусы, якія жылі ў "гарачых кропках" ці проста іншых краінах, дзе ім зараз прама заяўляюць: едзьце да сябе дамоў, вы тут не патрэбны. Нам бы радавацца таму, што сюды едуць нашы ж беларусы, многія з якіх, дарэчы, з'яўляюцца высакакласнымі спецыялістамі, іх веды можна было б добра выкарыстаць. Ды і, у рэшце рэшт, самае простае пытанне - кім мы ў будучыні будзем папаўняць працоўныя рэсурсы ў краіне, дзе смяротнасць перавышае нараджальнасць? А гэтым людзям не ўдзяляецца патрэбнай увагі, і атрыманне жылля, грамадзянства, працы ператвараецца для іх у сапраўдную праблему. У той жа час, напрыклад, Гомельская служба міграцыі дасылае нам даведку, дзе гаворыцца, што ў Мазырскі раён нелегальна прыбылі 42 асобы армянскай нацыянальнасці, якім былі прадастаўлены і праца, і жыллё, прычым за кошт калгаса. Саўгас "Обаль" Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці прымае і рассяляе ў сябе 190 таджыкаў, у той час як для сваіх грамадзян не хапае і жылля, і працы.

**-- Не ўзнікае ў вас адчування, што камусьці выгадна адсутнасць у Беларусі дакладных прававых нормаў у адносінах да міграцыйнага працэсу?**

-- Вы ведаеце, у мяне складваецца ўражанне, што гэта магчыма. Мабыць, нехта добра ўлавіў, што гэтыя нелегалы-замежнікі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, могуць у пэўны момант стварыць сацыяльную напружанасць, якую ў патрэбны момант можна выкарыстаць у сваіх палітычных мэтах. У нас практычна адсутнічае пазіцыя дзяржавы ў адносінах да эмігрантаў, што прыбываюць на Беларусь. Я, як прафесіянал, не разумею, як можна, знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, не заўважаць, што ў тваёй краіне з 10-мільённым насельніцтвам знаходзіцца больш за 400 тысяч нелегалаў, сярод іх ёсць людзі, якія маюць вопыт баявых дзеянняў, ствараюць свае мафіёзныя структуры, і рабіць пры гэтым выгляд, што такой праблемы не існуе. Ігнараванне яе можа абярнуцца цяжкімі наступствамі, бо без уліку фактару міграцыі немагчыма цвярозае і дакладнае прагназіраванне дзяржаўнай палітыкі. А палітыка, не ўзведзеная ў ранг закона, застаецца толькі пустымі словамі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**У аддаленым пункце Гомельскага раёна -- вёсцы Рудня-Марымонава адкрыта амбулаторыя. Яна абслугоўвае больш тысячы дарослых і каля трохсот дзяцей. Тут ёсць тэрапеўтычны і фізіяпрацэдурны кабінеты, траўмапункт, перавязачная, стаматалагічны і педыятрычны кабінеты.**

**НА ЗДЫМКУ: прыём дзяцей у амбулаторыі вядзе намеснік галоўнага ўрача Гомельскага раёна Людміла ТОРЦЕВА.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## МЗС БЕЛАРУСІ І ДЫЯСПАРА

# АБАРАНЯЦЬ ІНТАРЭСЫ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ

Беларуская дыяспара, раскіданая па ўсім свеце, стварыла даволі ўстойлівыя цэнтры беларускасці ў ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Аргенціне. Яна захавала там шмат каштоўнасцей беларускай культуры, прысуджаных у свой час да знішчэння на Бацькаўшчыне. Дасягненні эміграцыі ў гісторыі, паэзіі і музыцы часта перавышаюць дасягненні беларускай культуры на радзіме. Аднак трэба падкрэсліць, што далейшае існаванне беларускасці ў шырокім свеце знаходзіцца ў вялікай небяспецы. Не можа яна таксама ўтрымаць сваёй таесамасці без сувязі з радзімай.

Значна большая беларуская дыяспара раскідана па тэрыторыі былога Савецкага Союза. Новыя ўмовы жыцця вымушаюць нашых суайчыннікаў аб'ядноўвацца ў культурныя таварыствы і зямляцтвы, каб вырашаць пытанні не толькі культурнага, але і эканамічнага парадку. Такія таварыствы існуюць у гарадах Арэнбург, Алма-Ата, Львоў, Рыга, Кохтла-Ярве, Кішынёў, Бендэры, Вільня, Масква, Санкт-Пецярбург і іншых. Яны праводзяць вялікую працу па адраджэнню нацыянальнай свядомасці і захаванню беларускай культуры. Там выдаюцца газеты або старонкі для беларусаў, даецца эфірны час на радыё і тэлебачанні, ствараюцца культурныя цэнтры. Але ўсё гэта пакуль што ажыццяўляецца без належнай падтрымкі з боку беларускай дзяржавы, якая цяпер знаходзіцца ў складаным эканамічным становішчы, і гэта нашы суайчыннікі добра разумеюць.

У сваёй дзейнасці па падтрымцы беларускай дыяспары ў далёкім і блізкім замежжы МЗС кіравалася й кіруецца наступнымі прынцыпамі:

-- Скарыстоўваць сувязі з дыяспарай для вырашэння пытанняў духоўнага і эканамічнага адраджэння ў Беларусі. Вялікае значэнне мае і палітычная падтрымка знешняй палітыкі беларускай дзяржавы ў адпаведных краінах, дзе ёсць развітая дыяспара.

-- Улічваць пытанні заканадаўчага замацавання правоў і абароны інтарэсаў беларусаў (грамадзянства, маёмасць, ахова здароўя, пенсійнае забеспячэнне і г.д.) пры заключэнні дзяржаўных двухбаковых пагадненняў у розных галінах, у адпаведнасці з Міжнароднымі канвенцыямі аб правах чалавека.

-- Праводзіць актыўную дыпламатычную дзейнасць у тых краінах, дзе пражываюць беларусы, забяспечваць ім неабходныя ўмовы для свабоднага развіцця беларускай культуры, мовы, рэлігійных абрадаў і інш. праз адпаведныя міжнародныя і двухбаковыя пагадненні.

За перыяд, які прайшоў з часу абвяшчэння незалежнасці і суверэнітэту, Рэспубліку Беларусь прызналі больш як 100 краін свету, амаль з такой жа колькасцю краін яна ўсталявала дыпламатычныя адносіны.

На сённяшні дзень у Беларусі адкрыта 24 пасольствы замежных дзяржаў, 5 прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый, 36 паслоў акрэдытаваны па сумяшчальніцтву. За мяжой Рэспубліка Беларусь мае 30 прадстаўніцтваў і генконсульстваў.

Разам з афіцыйным афармленнем двухбаковых адносін стваралася шырокая дагаворна-прававая аснова ўзаемаадносін з рознымі дзяржавамі свету, што знайшло сваё адлюстраванне ў больш чым 200 пагадненнях, дагаворах, мемарандумах, канвенцыях і іншых міжнародных актах, падпісаных у ходзе сустрэч міждзяржаўных дэлегацый.

У сувязі з гэтым варта ўзгадаць двухбаковыя пагадненні, падпісаныя Рэспублікай Беларусь з дзяржавамі, у якіх існуюць беларускія дыяспары, па пытаннях забеспячэння правоў беларусаў, што стала пражываюць на тэрыторыі гэтых дзяржаў.

Такія пагадненні падпісаны з Рэспублікай Польшча, Расійскай Федэрацыяй, Украінай.

З Кыргызстанам ідзе ўзгадненне праекта, хутка адбудзецца падпісанне. Перададзены па дыпламатычных каналах праект пагаднення аб абароне правоў нацменшасцей літоўскаму боку.

Існуюць складанасці ў заключэнні такіх пагадненняў з Латвійскай і Эстонскай Рэспублікамі, якія перш за ўсё абумоўлены жорсткімі патрабаваннямі законаў аб грамадзянстве гэтых краін.

24 верасня 1993 года ў Маскве падпісана Пагадненне аб працоўнай дзейнасці і сацыяльнай абароне грамадзян Рэспублікі Беларусь, што працуюць на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, і грамадзян Расіі, якія працуюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

З Казахстанам пакуль што яшчэ нічога не падпісана, хоць там пражывае вялікая колькасць беларусаў. З Малдовай падпісана пагадненне аб пенсійным забеспячэнні.

Варта ўзгадаць таксама міжнародныя пагадненні па гэтаму пытанню ў рамках СНД. 13 лістапада 1992 года ў Маскве было падпісана Пагадненне Савета кіраўнікоў урадаў аб стварэнні Кансультацыйнага Савета па працы, міграцыі, абароне насельніцтва дзяржаў -- удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Расійскі бок прапанаваў падпісаць у рамках СНД Канвенцыю аб забеспячэнні правоў асоб, якія належаць да нацыянальных або этнічных моўных і рэлігійных меншасцей.

(Заканчэнне на 4-й стар.).



Світанак на возеры Палік. Фота А. ВАЛЯНЦІНАВА.

# АБАРАНЯЦЬ ІНТАРЭСЫ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

Аднак гэтае пытанне канчаткова не вырашана.

Асаблівай увагі заслугоўваюць праблемы беларусаў у Латвіі і Эстоніі. На думку міністэрства, неабходна заключыць у бліжэйшы час двухбаковае міжурадавае пагадненне аб рэгуляванні міграцыйных працэсаў і абароне правоў і інтарэсаў беларускай нацыянальнай меншасці ў Латвіі і аб рэгуляванні свабоднага перасялення этнічных беларусаў з Латвіі ў Беларусь і, наадварот, этнічных латышоў з Беларусі ў Латвію.

Пасля прыняцця Закона аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае шэраг ільгот для асоб беларускага паходжання, з'явіліся і складанасці ў выніку таго, што згодна з гэтым законам прызнаецца толькі адно грамадзянства. Узніклі практычныя пытанні ў асоб, якія выехалі ў іншыя краіны і не хочуць адмаўляцца ад беларускага грамадзянства. Існуе шмат праблем і з асобамі, якія даўно выехалі з Беларусі, ці з іх нашчадкамі.

Вельмі надзённыя пытанні ўзнікаюць у сувязі з жаданнем многіх вайскоўцаў вярнуцца на Бацькаўшчыну. Нашым консульствам у Рызе, Даўгаўпілсе, Таліне даручана практычна вырашаць пытанні з атрыманнем беларускага грамадзянства.

Міністэрствам замежных спраў быў распрацаваны і прадстаўлены праз Савет Міністраў на разгляд Вярхоўнага Савета праект указа аб некаторых пытаннях, звязаных з вызначэннем прыналежнасці да грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Згодна з гэтым праектам прадугледжваецца, што асобы, якія выехалі за межы Рэспублікі Беларусь без страты грамадзянства да ўвядзення ў дзеянне закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь", калі яны раней пражывалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і з'яўляліся яе грамадзянамі, не мелі і не маюць грамадзянства іншай дзяржавы, прызнаюцца пастаянна пражываючымі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і да 1 студзеня 1998 года могуць пацвердзіць сваю прыналежнасць да грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Гэта азначае, што асобы, якія не пражывалі ў Беларусі на момант прыняцця Закона аб грамадзянстве ў кастрычніку 1991 года, але могуць пацвердзіць, што раней стала пражывалі ў Беларусі, не павінны будуць выконваць такія ўмовы прыёму ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь як пацвярджэнне ведання дзяржаўнай мовы Беларусі ці пастаяннае пражыванне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на працягу апошніх 7 гадоў.

Вядома, не ўсе грамадзяне Беларусі, якія жывуць за яе межамі, пажадаюць вярнуцца ў бліжэйшы час на сталае жыхарства на Радзіму. Беларускаму ўраду было б цяжка таксама адразу забяспечыць прыстойныя ўмовы для ўсіх, хто захацеў бы вярнуцца ў рэспубліку, улічваючы і няпростае эканамічнае становішча, і вынікі чарнобыльскай аварыі, якія вымагаюць перасялення вялікай колькасці людзей з забруджаных радыяцыяй раёнаў.

Абавязак беларускага ўрада заключаецца ў тым, каб, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя сродкі, абараняць грамадзян Беларусі ў тых краінах, дзе яны жывуць. Перамовы па дыпламатычных кан[illegible] якія праведзены да гэт[illegible] часу з прадстаўнікамі шэрагу краін, у тым ліку балтыйскіх, сведчаць аб дастатковай верагоднасці падпісання двухбаковых пагадненняў, баронячых інтарэсы беларускіх грамадзян, што жывуць на тэр[illegible]ыі гэтых краін, у тым ліку [illegible]іх пытаннях, як правы на ва[illegible]данне нерухомай маёмасцю, зямлёй, пенсійнае забеспячэнне.

Да нядаўняга часу ніводнай урадавай установе не было афіцыйна даручана займацца ўсім колам пытанняў, звязаных з беларускай дыяспарай. Асноўная праца праводзілася таварыствам "Радзіма" і яго друкаваным органам -- газетай "Голас Радзімы", Таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, ЗБС "Бацькаўшчына".

Апошнія гады актыўную дзейнасць у гэтым напрамку праводзіла Міністэрства замежных спраў і яго прадстаўніцтвы ў іншых краінах. Былі ўсталяваны кантакты з рознымі эміграцыйнымі арганізацыямі, асобнымі іх прадстаўнікамі. Сумесна з іншымі міністэрствамі і ведамствамі праведзены Сход беларусаў блізкага замежжа (снежань 1992), а таксама Першы з'езд беларусаў свету (ліпень 1993). Апошні застаўся ў гісторыі як значная падзея на шляху яднання замежных беларусаў і тых, хто жыве на Бацькаўшчыне.

Зразумела, што работа з беларускай дыяспарай павінна ставіцца на грунтоўную аснову і патрабуе далейшага ўдасканальвання. Не выкарыстоўваецца такі значны патэнцыял, як інстытут ганаровых консулаў, які даўно ўзялі на ўзбраенне краіны Балтыі, Украіна, Расійская Федэрацыя.

Гэтыя і іншыя захады новага ўрада Рэспублікі Беларусь дапамогуць нашым суайчыннікам пераадолець сацыяльную і нацыянальную інертнасць, ідэалагічныя разыходжанні і гуртавацца ў нацыянальныя аб'яднанні ў той ці іншай краіне. Яны атрымаюць большую магчымасць весці дыялог з урадамі сваіх краін наконт пажаданняў і патрэб беларускай меншасці, а ўраду Беларусі будзе значна прасцей весці перамовы і заключаць двухбаковыя пагадненні, накіраваныя на падтрымку суайчыннікаў.

**Уладзімір ПАЛУПАНАЎ.**

МІНСКАЯ ЕПАРХІЯ Ў ПЕРЫЯД РЭПРЭСІЙ

# ПРАЗ ПАКУТЫ — ДЗЕЛЯ ВЕРЫ

## АБНАЎЛЕНЧЫ РАСКОЛ І ЗАЯВА АБ АЎТАКЕФАЛІІ: 1927 ГОД

Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю праваслаўнага духавенства Мінскай епархіі ў 1927 годзе. Абнаўленства, што шырока распаўсюдзілася ў Расіі, на жаль, знайшло для сябе глебу і ў Беларусі.

Прыхільнікі абнаўлення выступалі за адмену шэрагу найважнейшых кананічных нормаў царкоўнага жыцця; выступалі за богаслужэнне на рускай мове, закрыццё манастыроў, пераход на грыгарыянскі каляндар, жанаты епіскапат, магчымасць для святароў браць другі шлюб і г.д. Тым самым яны вялі да разбурэння Царквы, якая спрадвеку кіравалася ў сваім жыцці супрацьлеглымі прынцыпамі, чым тыя, якія прапаноўвалі ўвесці абнаўленцы.

Яшчэ ў красавіку 1925 года ў Мінску асталяваўся самачынны абнаўленскі мітрапаліт Данііл (Грамавенка), у нядаўнім мінулым просты сельскі свяшчэннік. Не без дапамогі ўладаў ён адабраў у праваслаўных Спаса-Праабражэнскую царкву, якая належала жаночаму манастыру. Да Данііла прымкнула нязначная частка мясцовага духавенства, і, такім чынам, у епархіі ўтварыўся раскол. Імкнучыся аслабіць Праваслаўную Царкву, улады ўсяляк інспіравалі яго, патураючы на першым часе абнаўленцам у іх раскольніцкай дзейнасці.

16 сакавіка 1927 года абнаўленцам перадалі мінскі Св.Петра-Паўлаўскі кафедральны сабор. У выніку гэтай акцыі паміж праваслаўнымі і абнаўленцамі ў саборы ледзь не пачалося сутыкненне. У беспарадках неўзабаве абвінавацілі клірыка сабора а.Антонія Царанкова, які быў тут жа арыштаваны і прыгавораны да 3 гадоў зняволення ў канцлагеры на С[illegible]ках.

У тым жа месяцы абнаўлен[illegible]рабавалі заняць Св.Васкрасенскі храм у [illegible]рысаве. Протаіерэй Васілій Ізмайлаў, які быў настаяцелем у ім, даведаўся аб іх намерах загадзя і, як гавораць дакументы, "...во время обедни, когда полная была церковь народа, сообщил, что скоро должны приехать большевис[illegible]ие попы, чтобы забрать храм и сделать в н[illegible]луб. Он призвал защищать церковь, при[illegible]ем советовал мужчинам в это дело не вмешиваться..." Айцец Васілій сумеў так настроіць людзей, што з прыездам абнаўленцаў у храме не адбылося ніякага інцыдэнту і сам храм застаўся за праваслаўнымі. Неўзабаве ўлады арыштавалі яго, і ён быў накіраваны ў Салавецкі лагер асобага назначэння, дзе ў 1930 годзе памёр.

Летам 1927 года ў абнаўленцтва ўцягнуліся насельнікі слуцкага Св.Троіцкага манастыра на чале з ігуменам Савацієм (Засімовічам). Настаяцель слуцкага Св.Нікалаеўскага сабора протаіерэй Міхаіл Лукашэвіч і настаяцель Св.Васкрасенскай царквы горада прот. Аляксандр Хвалебнаў, якія супрацьстаялі гэтаму, былі арыштаваны. Першы з іх быў высланы на тры гады ў горад Гадзяч Палтаўскай акругі, а другі сасланы ў Марыйскую вобласць.

Нягледзячы на падтрымку ўладаў, абнаўленцтва не атрымала шырокага распаўсюджання ў Мінскай епархіі, у адрозненне, скажам, ад суседніх епархій -- Віцебскай і Магілёўскай. Яно ўскладніла мясцовае царкоўнае жыццё, унесла ў яго многа смуты і неразбярыхі, але не стала галоўным.

У гэтым была немалая заслуга епіскапа Філарэта (Раменскага) і яго бліжэйшых паплечнікаў, вядомых мінскіх протаіерэяў а.Васілія Ачапоўскага, а.Антонія Кіркевіча, а.Стэфана Кульчыцкага, а.Дзімітрыя Паўскага, а.Аляксандра Пігулеўскага.

Сумеўшы процістаяць абнаўленцтву, але баючыся новых расколаў, яны выбралі шлях абвяшчэння... аўтакефаліі.

Крок гэты быў вымушаным. Ён з'явіўся вынікам іх імкнення захаваць, зберагчы ва ўмовах узрастаючых царкоўных рознагалоссяў цэласць і непарушнасць праваслаўнай веры.

У "Дэкларацыі" ад 21 чэрвеня 1927 года, прынятай праваслаўным духавенствам Мінска і яго наваколляў, гаварылася: "У рэлігійнай свядомасці праваслаўных веруючых мас Беларусі заўсёды была жывой думка аб аўтаноміі, і ў сучасны момант асабліва, калі ў асяроддзі Праваслаўнай Царквы Усерасійскай растуць рэлігійныя рознагалоссі, павялічваецца колькасць розных царкоўных груповак. Не жадаючы ўцягвацца ў барацьбу паміж рэлігійнымі царкоўнымі партыямі, Беларуская Праваслаўная Царква лепшым сродкам пазбегнуць гэтага лічыць пацвярджэнне сваёй непахіснай волі быць аўтакефальнай".

9--10 жніўня 1927 года пад старшынствам епіскапа Філарэта (Раменскага) у Мінску адбыўся епархіяльны з'езд, на якім было заяўлена аб аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Аднак паўнамоцтваў на падобнае рашэнне ад іншых праваслаўных архірэяў атрымана не было. Толькі епіскап Слуцкі Мікалай (Шамяціла) падтрымаў яго. Супраць аўтакефаліі выступіў епіскап Магілёўскі Феадосій (Вашчынскі). Звяртае на сябе ўвагу, што ў з'ездзе прымалі ўдзел прадстаўнікі выключна Мінскай епархіі і не было нікога з іншых епархій Беларусі. Нарэшце, рашэнне аб абвяшчэнні аўтакефаліі не атрымала благаславення ўсходніх патрыярхаў.

Часткова заяву аб аўтакефаліі можна разглядаць як рэакцыю на апублікаванае 29 ліпеня 1927 года "Пасланне пастырам і пастве" Намесніка Месцаахоўніка Патрыяршага Прастола мітрапаліта Сергія (Старагародскага), што выклікала немалыя хваляванні ў Царкве. Магчыма, епіскап Філарэт (Раменскі) і блізкае да яго духавенства хацелі адасобіцца ад гэтага "Пасланія", лічачы яго небездакорным, і менавіта з гэтых меркаванняў паскорылі аб'яўленне кананічна не апраўданай аўтакефаліі.

Цяпер, з вышыні сённяшняга дня, епіскапа Філарэта і яго акружэнне лёгка дакараць і нават асуджаць, але ў далёкім 1927 годзе, калі Царкву даймала вялікае мноства расколаў і на месцах вельмі спрэчным уяўлялася, каму ж сапраўды належыць (і ці належыць увогуле камунебудзь?) уся паўната царкоўнай улады, -- вельмі няпроста было разабрацца ва ўзнікшай сітуацыі...

## РЭПРЭСІІ 1929—1932 ГАДОЎ

Самыя масавыя рэпрэсіі ў адносінах да веруючых на Беларусі, як і ўвогуле ў Расіі, пачаліся з 1929 года і супалі з калектывізацыяй. Незадоўга да яе ўсе храмы Мінскай епархіі былі старанна агледжаны і з іх забраны царкоўнапрыходскія архівы, што на сёння невядома дзе знаходзяцца.

У ходзе калектывізацыі агульная колькасць праваслаўных храмаў у Савецкай Беларусі катастрафічна скарацілася. Дакументы Камісіі па аддзяленню Царквы ад дзяржавы ў БССР сведчаць, што з 1 022 праваслаўных храмаў, што дзейнічалі ва Усходняй Беларусі на 1 студзеня 1930 года, на працягу наступных двух гадоў 573 храмы "былі перададзены пад культурныя і гаспадарчыя патрэбы". Сотні свяшчэннаслужыцеляў і многія тысячы міранаў былі высланы ў Сібір, заключаны ў канцлагеры, а некаторыя расстраляны...

У гэтыя страшныя гады духавенства Мінскай епархіі падзяліла ўвесь цяжар і нягоды, што выпалі на долю простага люду. Яно прыняло на сябе ўдар жахлівай сілы, але не здрадзіла свайму пастырскаму абавязку.

Масавыя арышты свяшчэннікаў у перыяд калектывізацыі з'явіліся заканамерным вынікам праводзімай бальшавікамі палітыкі абеззямельвання сялянства, якая суправаджалася адпаведнай ідэалагічнай апрацоўкай насельніцтва.

Царкоўны клір не мог не пацярпець за гэтыя гады, таму што лад жыцця сельскага пастыра быў непарыўна звязаны з усім укладам сялянскага жыцця, і калі ў корані падрываўся гэты ўклад, у вёсцы не заставалася месца і для свяшчэнніка.

Прычыны для шматлікіх арыштаў свяшчэннаслужыцеляў былі розныя. Улады стараліся выкарыстаць любую зачэпку, каб пазбавіцца ад непажаданых пастыраў.

Протаіерэй Феафіл Трыдзенскі (Жодзіна) быў высланы на 3 гады па этапу ў Сібір за тое, што заклікаў вернікаў не адракацца ад веры Хрыстовай, а таксама збіраў подпісы за тое, каб пакінуць мясцовы храм дзеючым. Свяшчэннік Яўгеній Хлябцэвіч (Ячанка Уздзенскага раёна) быў прыгавораны да 3 гадоў канцлагера за выступленне на прыходскім сходзе супраць перадачы царквы пад клуб. Протаіерэй Іаан Кульчыцкі (Прусы Слуцкага раёна) быў сасланы ў Сібір за перапіску з суседнім свяшчэннікам а.Паўлам Зенчыкам, які жыў у Заходняй Беларусі, а значыць з'яўляўся нядобранадзейным. Іерэй Канстанцін Будоль (Горна Лагойскага раёна) быў асуджаны на 3 гады канцлагера за навучанне ў сябе дома сялянскіх дзяцей Закону Божаму. Свяшчэннік Георгій Невяроўскі (Кіевічы Капыльскага раёна) атрымаў той жа тэрмін за смелыя, справядлівыя пропаведзі. Протаіерэй Іаан Бруякін (Вароніцкая Слабада Пухавіцкага раёна) быў зняволены на 5 гадоў у канцлагер за заклік мацней трымацца веры праваслаўнай. Свяшчэннік Антоній Валачковіч (Цітва Пухавіцкага раёна) трапіў на 5 гадоў у канцлагер за спробу сабраць сродкі сярод прыхаджан на рамонт храма. Протаіерэй Іосіф Ясінскі (Волма Койданаўскага раёна) быў прыгавораны да 10 гадоў заключэння ў канцлагеры за тое, што на свята Богаяўлення наладзіў хрэсны ход.

Працяг. Пачатак у № 22.

**Свяшчэннік Фёдар КРЫВАНОС.**

## ПЕРШАЯ МІЖНАРОДНАЯ

# ПРАБЛЕМЫ МУЗЕЯФІКАЦЫІ АСЯРОДДЗЯ

У Мінску і яго ваколіцах завяршыла сваю працу І Міжнародная канферэнцыя "Музеяфікацыя гістарычных тэрыторый". Арганізатары мерапрыемства -- Беларускі фонд Сораса, фірма "Паліфакт", гісторыка-культурны запаведнік "Заслаўе", Беларускі інстытут праблем культуры -- запрасілі да ўдзелу ў рабоце навукоўцаў і музейшчыкаў не толькі з Беларусі, але і з Расіі, Польшчы, Латвіі, Літвы. Якія ж пытанні былі ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў канферэнцыі? Па-першае, шэрагам выступоўцаў кіравала жаданне разабрацца, што ж з'яўляецца асноўнымі крытэрыямі ў вызначэнні унікальных гістарычных тэрыторый, іх тыпалогіі, іх нацыянальнага статуса. Праблемы музеяфікацыі асяроддзя і асобных аб'ектаў разглядаліся з пункту гледжання новай музеялогіі.

Удзельнікі канферэнцыі сышліся на той высновe, што пад унікальнай гістарычнай тэрыторыяй трэба разумець прыродныя і тэрытарыяльныя комплексы, якія валодаюць выключнай гістарычнай і культурнай каштоўнасцю ў сусветным ці нацыянальным маштабе. Для іх характэрна высокая ступень насычэння помнікамі культуры і захаванне традыцыйнага навакольнага асяроддзя.

Работа канферэнцыі ішла па наступных накірунках: вызначэнне паняцця "унікальная гістарычная тэрыторыя", іх тыпалагічныя характарыстыкі, музеяфікацыя гістарычных тэрыторый, новыя музеялагічныя канцэпцыі, ахова унікальных гістарычных тэрыторый, музеяфікацыя ландшафтаў, адносіны з уладнымі структурамі і мясцовым насельніцтвам.

Пачатак работы канферэнцыі віталі прадстаўнікі Міністэрства культуры і друку, Беларускага фонду Сораса, Беларускага інстытута праблем культуры, фірмы "Паліфакт".

З грунтоўным дакладам "Новая музеялогія. Праблемы тэорыі і практыкі" выступіў кандыдат гістарычных навук Аляксандр Калбаска. Загадчык аддзела этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук доктар гістарычных навук Аляксандр Лакатко разглядаў і аналізаваў стварэнне ландшафтна-этнаграфічнага запаведніка "Менка", перспектывы і накірункі яго развіцця. Дырэктар нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі Іван Загрышаў звярнуўся да канкрэтнай практычнай тэмы, расказаўшы пра праблемы музеяфікацыі сядзібы Касцюшкі ў Марачоўшчыне. Архітэктар фірмы "Балаіч" Вячаслаў Бабашкін прысвяціў сваё выступленне палаца-парkаваму ансамблю ў Бачэйкаве.

Нельга было без хвалявання слухаць падрабязны расказ Валерыя Шышанава пра музей-сядзібу І. Рэпіна ў Здраўневе. Справа ў тым, што ў нядаўнім часе гэты унікальны музей пацярпеў ад моцнага пажару. Зараз жа ідзе працэс аднаўлення. Намеснік дырэктара па навуковай рабоце Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка Тамара Джумантаева звярнула ўвагу на праблемы музеяфікацыі гістарычнай часткі Полацка. Але ж музей, унікальныя гістарычныя тэрыторыі не існуюць самі па сабе. І менавіта пра судакрананне горада і музея, пра характар іх узаемаадносінаў гаварыла на канферэнцыі загадчык аддзела экспазіцыі гісторыка-культурнага запаведніка "Заслаўе" Ала Сташкевіч. Фарміраванню музейнай аўдыторыі ў сістэме экамузея прысвяціла сваё выступленне загадчык аддзела музейнай педагогікі "Заслаўя" Вольга Міронччык.

По выніках работы канферэнцыі прыняты зварот.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ЗВАРОТ

## УДЗЕЛЬНІКАЎ МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ПА ПРАБЛЕМАХ МУЗЕЯФІКАЦЫІ УНІКАЛЬНЫХ ГІСТАРЫЧНЫХ ТЭРЫТОРЫЙ ДА ГРАМАДСКАСЦІ І КІРАЎНІЦТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Беларусь перажывае цяжкі перыяд. Спыняюцца прадпрыемствы, развальваюцца калгасы, даходзяць да галечы медыцына, навука і адукацыя. Культура ў заняпадзе. Адной з першых бядот маладой дзяржавы, якая імкнецца да самастойнасці, выявілася відавочная адсутнасць у розуме і сэрцах людзей здаровай нацыянальнай ідэі, здольнай з'яднаць і мабілізаваць грамадства.

У гэты складаны гістарычны момант мы, прадстаўнікі інтэлігенцыі з розных куткоў Беларусі і суседніх краін, сабраліся на канферэнцыю, каб звярнуць увагу грамадскасці да, здавалася б, другараднай і таму амаль ніколі не згадваемай праблемы гістарычных тэрыторый Беларусі.

Сядзібныя, замкавыя і палацавыя комплексы былі ўпрыгажэннем беларускай зямлі, аб'ядноўвалі ў цэласныя ансамблі жылыя дамы і храмы, культурна-бытавыя і гаспадарчыя будынкі, плаціны і шлюзы, вадзяныя млыны і ветракі, сады і паркі. Тут развіваліся і квітнелі рамёствы і гандаль, тут ствараліся, збіраліся і песталіся духоўныя здабыткі народа, фарміравалася нацыянальная свядомасць.

Гістарычныя сядзібы, звязаныя з імёнамі выдатных дзеячаў палітыкі, адукацыі, навукі, мастацтва, з гісторыяй славутых у Еўропе родаў Радзівілаў, Сапегаў, Цеханавецкіх, Чартарыйскіх, Агінскіх, Ельскіх, Чапскіх, Тышкевічаў, Ваньковічаў, Патоцкіх, Манюшкаў, Пшыздзецкіх і шмат іншых, заўсёды былі цэнтрамі культурнага і гаспадарчага жыцця, астраўкамі цывілізацыі. Яны адыгрывалі агромністую ролю ў яднанні народа, вызначалі не толькі параднае аблічча Айчыны, але і яе культурны ўзровень, яе эканамічны базіс і духоўны стан.

У цэнтры цывілізаванай Еўропы, на скрыжаванні яе жыццёвых артэрыяў, не можа і не павінна заставацца ніводнага кутка запусцення, бяспамяцтва і разрухі.

Гісторыя бязлітасна распарадзілася неацэннай спадчынай. Урон, нанесены унікальным гістарычным тэрыторыям рэвалюцыяй, войнамі, калектывізацыяй, паглыбіўся бяздумнай і бязглуздай дзейнасцю, якая ператварыла былыя аазісы культуры ў сметнікі, знявечыла недарэчнымі пабудовамі.

Для ўратавання апошніх ацалелых астраўкоў культуры, што паслужыла б адраджэнню нацыянальнай гордасці і годнасці, мэтазгодна распрацаваць праграму музеяфікацыі унікальных гістарычных тэрыторый, якая аб'яднала б намаганні ўсіх.

У першую чаргу неабходны аналіз сітуацыі і творчае асэнсаванне вопыту па аднаўленню і рэканструкцыі гістарычных тэрыторый у Беларусі і за мяжой. Першая Міжнародная канферэнцыя, якая праводзіцца Беларускім фондам Сораса, фірмай "Паліфакт" і гісторыка-культурным запаведнікам "Заслаўе", -- адзін з першых крокаў на гэтым кірунку. Неабходна ўзмацніць на прававой аснове дзяржаўную ахову гістарычных аб'ектаў ад далейшага разбурэння, каб захаваць цэласнасць іх тэрыторый.

Гэта вымагае распрацоўкі і прыняцця цэлага пакета нарматыўных дакументаў, якія б вызначылі юрыдычны статус унікальных гістарычных тэрыторый, правы і абавязкі іх уладальнікаў і карыстальнікаў, характар удзелу суб'ектаў гаспадарання ў іх аднаўленні і эксплуатацыі: без гэтага немагчымае колькі-небудзь маштабнае прыцягненне сродкаў.

Зразумела, што праектаванне і абнаўленне сядзіб, якія часткова захаваліся, павінна весціся з прыстасаваннем іх да сучаснага карыстання. Тут мэтазгодна стварэнне музеяў, адраджэнне музычных і літаратурных салонаў, тэатраў, бібліятэк, ператварэнне культурна-гістарычных помнікаў не толькі ў аб'екты турызму, але і ў дзеючыя самаакупныя і прыбытковыя прадпрыемствы. Трэба шукаць шляхі выкарыстання сядзіб у адпаведнасці з іх першапачатковым прызначэннем, да вяртання ў прыватную ўласнасць уключна.

Мы разумеем, што ў дзяржавы нестае сілы і ўвагі на аднаўленне спадчыны. Праблемы помнікавых мясцін і унікальных гістарычных тэрыторый лёгка выпадаюць з ліку першачарговых. Але ў развіцці цывілізаванага грамадства, у станаўленні сапраўднай дзяржаўнасці не бывае другарадных задач. Таму мы разлічваем прыцягнуць да работы па рэалізацыі праграмы музеяфікацыі унікальных гістарычных тэрыторый не толькі вучоных, архітэктараў, мастакоў, пісьменнікаў, музыкантаў, дойлідаў, але і камерсантаў, банкіраў, аграрнікаў, вайскоўцаў.

Мы лічым, што ў ёй прымуць актыўны ўдзел дзяржаўныя прадпрыемствы, навуковыя і праектныя інстытуты, выдавецтвы, прыватныя фірмы, камерцыйныя структуры і банкі.

Мы спадзяемся на дапамогу дабрачынных фондаў, грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў, акцыянерных таварыстваў, сумесных прадпрыемстваў, замежных прадстаўніцтваў і фірмаў.

Мы верым, што гэтая праца будзе падтрымана ўрадам Рэспублікі Беларусь, яе Вярхоўным Саветам і Адміністрацыяй Прэзідэнта.

**Мінск--Заслаўе--Дудуткі.**

*24 чэрвеня 1995 года.*

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Памятаю драўляныя вагоны з пасланай саломай, у якіх нас, як скаціну, везлі ў Нямеччыну. Вось такія вельмі сумныя ўспаміны.

*-- Ну а як вы трапілі ў Францыю?*

-- Пасля заканчэння вайны мы апынуліся ў Даніі. Хутка СССР стаў патрабаваць, каб датчане вярталі савецкіх грамадзян на радзіму. Шмат вярнулася, і сёння ўжо вядома, што іх тут чакала. Не ведаю, ці здагадваўся пра гэта бацька, але мы паехалі далей. Так мы апынуліся ў Францыі. Пасля вайны знайсці працу было няцяжка. Бацька

Колькі я сюды ні прыязджаў, мяне здзіўляла колькасць замежных самых звычайных вырабаў: сокаў, маянэзаў, маргарыну, сыру, чыпсаў, якія ўсё больш выцясняюць тутэйшыя. Хіба беларусы не здольныя рабіць такія ж якасныя ў прыгожай упакоўцы свае прадукты? Тое, што мы маем на ўвазе прапанаваць цяпер, -- маленькія перапрацоўчыя заводы, якія могуць лёгка сабе дазволіць нават калгасы. Яны незалежныя, і іх можна сабраць (усё будзе завозіцца з-за мяжы) у любым зручным месцы. Тут усё прадугледжана ад пачатку -- укладанне сыравіны -- і да канца працэсу -- гэта атрыманне ўжо перапрацаванай і запакаванай прадукцыі ў выглядзе тых жа чыпсаў, сокаў, ёгуртаў і сыроў -- каму што патрэбна. Такога на Беларусі пакуль няма.

# ЦІ НЕ ВЫБУХНЕ НОВАЯ ХВАЛЯ ЭМІГРАЦЫІ?

хутка ўладкаваўся, а я й сястра пайшлі ў школу.

*-- Вы жылі ў Францыі, а выхоўваліся ў беларускай сям'і. На той час яшчэ існавала і беларускае асяроддзе. Ці даходзілі да вас нейкія весткі з Беларусі?*

-- Амаль не. Наогул пра пасляваенную Беларусь я нічога не ведаў. Пра тое, што пачаліся тут нейкія змены, даведаўся я менавіта з вашай газеты "Голас Радзімы". Напэўна, нейкая падсвядомая цяга да Бацькаўшчыны была. Перш чым трапіць на Беларусь, давялося мне сустрэцца з некаторымі беларусамі, калі я ў 1992 годзе наведаў Гайнаўку ў Польшчы. Я быў вельмі ўражаны беднасцю, аднолькавасцю сацыялістычнай архітэктуры. З другога боку, мяне ўразілі людзі, якія наогул нічым не адрозніваліся ад еўрапейцаў. Тады і завітала думка, што трэба нешта рабіць, каб дапамагчы гэтым людзям, а таксама Беларусі, каб яна на роўных магла інтэгравацца ў Еўропу.

*-- І што за гэты час удалося зрабіць?*

-- Перад прыездам у Мінск я даведаўся, што існуе такая праграма TACIS для СНД з мэтай падтрымкі развіцця там сучасных тэхналогій. У Расіі такія праграмы тады ўжо пачыналі дзейнічаць, але ў Беларусі ў 1991 годзе амаль ніхто пра іх не ведаў. Прыехаўшы сюды, я пачаў паход па міністэрствах. Знайшоў падтрымку ў Міністэрстве транспарту. Папярэдне я атрымаў згоду і ад партнёраў у Францыі. Разам з імі і беларускім бокам распрацавалі праграму па ўладкаванню і мадэрнізацыі магістралі Брэст--Масква. Гэта было ажыццяўленне першай на Беларусі праграмы TACIS, а таксама пачатак маёй дзейнасці тут, так бы мовіць, у якасці каардынатара. Далей мы стварылі цэнтр (ужо разам з Міністэрствам энергетыкі), які працаваў па праграме энергазберажэння і распаўсюджвання гэтай ідэі на Беларусі. У ёй удзельнічалі і немцы, і англічане, і італьянцы. Арганізоўваліся семінары, перадаваліся новыя тэхналогіі.

*-- Ці ёсць якое адрозненне паміж працай тут і ў Францыі?*

-- У Францыі менш святкуюць, чым тут. Наогул жа, калі людзі маюць зацікаўленасць да працы і яна добра ўзнагароджваецца, дык розніцы няма. Беларусы вельмі добрыя спецыялісты, і мне падабаецца з імі супрацоўнічаць. Гэты раз я прыехаў сюды з распрацоўкай наступнай сваёй ідэі -- укараненне новых тэхналогій па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі. Праект гатовы. Засталося толькі стварыць арганізацыю з капіталам з беларускага і французскага бакоў. Але за апошні час тут адбыліся пэўныя змены і, падаецца, не ў лепшы бок. Мы працуем, але я не здзіўлюся, калі сёння мне скажуць, што наш вопыт тут не патрэбны і нам лепей застацца ў Францыі.

*-- Што вы маеце на ўвазе?*

-- Ведаеце, за адзін дзень можна разваліць тое, што напрацоўвалася гадамі, і ўжо спатрэбяцца дзесяткі гадоў высілкаў, каб нагнаць, што страцілі, і пабудаваць нешта новае. Я ведаю, што замежнікаў вельмі турбуе эканамічная нестабільнасць у дзяржаве. Зараз да яе дадаецца яшчэ і палітычная. Замест таго каб прапанаваць ідэю, якая аб'яднала б народ, на рэферэндум выносяцца пытанні, накіраваныя на раскол грамадства. Замежнікі, якія планавалі сваю дзейнасць тут у Беларусі, часткова або яе спыняць, або наогул не будуць распачынаць. Ды і людзі тут будуць чакаць лепшых часоў. Баюся, каб не пачалася новая хваля эміграцыі.

*-- Такі прагноз падаецца не вельмі аптымістычным.*

-- Наўрад ці ён можа быць іншым пасля фільма "Ненависть". Дзе зараз знайшлі фашызм? У Іраку? Паўночнай Карэі? Хто яго цяперашні ідэал? Такія метады былі аднойчы вельмі папулярныя і выкарыстоўваліся для знішчэння дэмакратычных рухаў, але ж той час прайшоў. Як сталася, што Беларусь вяртаецца на пяцьдзесят гадоў назад? Большасць людзей, што паказалі ў фільме, я ніколі ў асяроддзі БНФ не бачыў. Шчыра кажучы, Пазьняк як асоба мне не вельмі падабаецца, але яго беларускасць, яго ідэя незалежнасці мне даспадобы.

Стан у эканоміцы такі, што нельга марудзіць. Сюды трэба несці новыя тэхналогіі, вывучаць сусветны вопыт. Яшчэ ёсць час выправіць. Трэба глядзець і на Усход, і на Захад. Беларусь -- дзяржава маленькая. Тут лягчэй навесці парадак, чым у Расіі, тым больш, калі ўлічыць працоўныя і інтэлектуальныя здольнасці спецыялістаў.

*-- Дзякуй за размову, спадар Лявон. Хочацца спадзявацца, што вы не спыніце свайго супрацоўніцтва з Беларуссю і ў хуткім часе на нашых прылаўках з'явяцца высакаякасныя вырабы, якія і па выгляду не будуць саступаць замежным і на якіх пазначана будзе: "Зроблена ў Беларусі".*

**Гутарыла Таіса БАНДАРЭНКА.**



У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь прайшла рэдкая для мінчан выстава "Прыкладное мастацтва Кітая". Экспазіцыя расказала аб шматгранным і унікальным таленце кітайскіх майстроў самай тонкай вышыўкі па шоўку, мастацтве вырабу кітайскага фарфору, унікальных ваз, распісаных так званай перагародчатай эмаллю, знаёміць з работамі майстроў ткацтва, разьбой па каменю, сандалаваму і коркаваму дрэву.

Кожны экспанат гэтай чароўнай выставы -- унікальны, самабытны твор старажытнай кітайскай культуры.

**НА ЗДЫМКАХ:** знаёмства з выставай; работа з выставы.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.



# АПОШНІЯ РАДКІ ПАЭТА

ТРЭБА Ж -- такая выпадковая, такая ўцешная стрэча! У булачнай. У чаржышчы пад свята...

-- Александрына! Александрына! Дзе ты?!

Яшчэ зусім маладзенькая мама згубіла дачушку. Азіраецца вакол -- знікла! -- просіць чаргу запомніць і пусціць яе, як знойдзе дзіця і вернецца назад... І неўзабаве сапраўды вяртаецца. Усхваляваная, вядзе за руку сваю Александрыну і сярдзіта адчытвае:

-- А каб які п'яны дзядзька схапіў цябе! Дзе б я цябе шукала!

-- Я больш не буду,.. -- вінавата міргае сінімі ў слёзках валошкамі малая.

-- Не будзеш!..

Ах, Александрына, Александрына... Як за цябе заступіцца, каб і маму супакоіць, каб і сама ты...

-- Якое прыгожае ў яе імя -- Александрына! -- кажу я, -- мы суседкі па чарзе.

-- Імя прыгожае, ды сама яна... -- мякчэе, хоць і не адразу здаецца, мама.

-- Ну і сама яна таксама!

Не пахваліць дзяўчынку і сапраўды грэх. Такая ўся яна пшанічная, ружовая і блакітная: і шаўковыя пушыстыя коскі з сінімі бантамі, і дапытлівыя гэтакія ж сінія вачаняты і шчочкі, ружовыя, пяшчотныя, як пялёсткі ружы...

-- А ці спяваеце вы дома, ці хоць слухаеце песню пра яе? Пра Александрыну...

-- Ёсць у нас такая пласцінка, -- разумее, пра што я кажу, мама.

-- А хто напісаў яе -- ведаеце?

-- "Песняры".

(Хто іх не ведае!)

-- А словы, вершы чые?

(Мама ў такім узросце -- не так даўно, пэўна, і ад навукі -- што, можа, і паэзіяй яшчэ цікавіцца).

-- Н-не-э... Не ведаю, -- усміхаецца мама.

-- Ну, Петруся Броўку то вы павінны ведаць!

-- Вядома! Броўку мы ў школе праходзілі... "Александрыну" хіба таксама ён напісаў?

-- Ён.

-- Не, "Александрыну" мы не праходзілі...

Наша чарга да хлеба, нарэшце, падышла! Мы набралі на ўсе святы, развіталіся, як добрыя ўжо знаёмыя. І, як кажуць, разышліся, што ў моры караблі.

А мне ўвесь той дзень усё гучалі, гучалі так выпадкова ўспомненыя радкі.

**Прайшлі вясна, і лета,**
**і восень, і зіма...**
**Александрына, дзе ты!**
**Шукаю я -- няма!..**
**Шукаю я -- няма...**

І бяру з кніжнай паліцы, трымаю ў руках, гартаю апошнюю кніжку Петруся Броўкі. Яна выходзіла ў нашай рэдакцыі, калі я працавала яшчэ ў выдавецтве. Аповесць для дзяцей і юнацтва "Донька-Даніэль". Паэт яшчэ сам прынёс рукапіс у выдавецтва, яшчэ клапаціўся, званіў у рэдакцыю, цікавіўся, калі выйдзе кніжка, які будзе мець выгляд...

Але кніжка спазнілася. А сам паэт паспяшаўся... А як бы ён тады пацешыўся, сустрэўшыся са сваім Донькам-Даніэлем, гэтак адмыслова апранутым у кніжнае ўбранне выдатным беларускім мастаком-графікам Арленам Кашкурэвічам.

Гартаю старонкі "Донькі-Даніэля"... Вось ён з вокладкі адпраўляецца ці хутчэй за ўсё ўжо вяртаецца назад аднекуль са сваіх бясконцых вандровак, Донька-Даніэль з дарожным кіем у рук[illegible]эк і хочацца назваць яго п[illegible]ам -- гэты крышку тэатральны атрыбут пасуе Донькавай натуры выключна!), з салдацкай кайстрай і прывязаным да яе імбрычкам за плячыма; з глінянай за поясам ко наўкай -- на[illegible]а дзе-небудзь у дарозе са[illegible]дзёнай лясной крынічкі... [illegible]онька-Даніэль без шапкі. Яшчэ лагодны асенні вятрыска шавеліць пасмачкі зрадзелага, некалі шыкоўнага чубу і смяшліва раздзьмухвае аблезлую аўчыну на каўняры бекешы, пашытай уласнаручна, па апошняй модзе, з валянага хатняга сукна самім Донькам-Даніэлем.

Блудны сын вяртаецца ў родную вёску. Ён столькі разоў пакідаў яе, кіруючыся ў белы свет -- па шчасце, па лепшую долю. І кожны раз зноў і зноў вяртаўся да яе пожняў, да яе адлётных жураўлёў.

"На ўсё жыццё запамяталіся доўгія-доўгія, вузей нават невялічкай рачулкі Ушачкі, пясчаныя шнуры сялянскай зямлі. Пакрыўленыя, пахілыя, як старыя-старыя бабулькі, хаціны са стрэхамі, зарослымі зялёным мохам і з падслепаватымі акенцамі, якія, быццам скардзячыся на свой лёс, сіротамі глядзелі на дарогу".

Так апісваў геаграфію ўласнага "роднага кута" беларускі народны паэт Пятрусь Броўка. І вось іх, гэтыя хаты і шнуры зямелькі, пакідаў і да іх шторазу нязменна вяртаўся Донька-Даніэль. З такім якраз вяртаннем яго і страчаемся мы на вокладцы, зробленай народным мастаком Арленам Кашкурэвічам.

Ну а пра што ідзе гаворка ў самой кнізе?

Анатацыя петытам -- дробненькімі-дробненькімі літаркамі з трох радкоў -- так вельмі сціпла вызначае змест аповесці "Донька-Даніэль": "Аўтар з добрай усмешкай расказвае пра сябе і сваіх сяброў, якія рознымі шляхамі прыходзілі ў новае жыццё, каб стаць удзельнікамі яго вялікай перабудовы".

А перабудова і сапраўды пачалася нечуваная! "Загудзела, як вулей, усё сяло. Хомка Кісель, які прыйшоў з фронту, паведаміў, што цара скінулі. Донька кожны дзень выпытваў у яго, што і як было. Збіраўся сам падацца ў горад, даведацца пра ўсё, але чуў, што зямлю будуць дзяліць, дый лес панскі пачалі секчы на новыя хаты. Баяўся, каб не адстаць ад другіх. А падзеі разгортваліся ўсё хутчэй. І пан, які спрабаваў спрачацца з сялянамі за лес, уцёк... Донька доўга раіўся з Кісялём, але той і сам толкам не ўмеў растлумачыць, што робіцца ў свеце. А калі прыйшоў дадому паранены Язэп Жыгалка, Донька дазнаўся, што ўжо новая ўлада на зямлі. Ды й камісар Будай з воласці з'явіўся і растлумачыў, што ўсё ў Леніна ў руках".

Аднак не трэба думаць, што Донька-Даніэль сыходзіць са старонак кнігі, як нейкі ледзь не самы першы актывіст з рэвалюцыйнай паходняй у руках, з чырвоным на грудзях бантам, за якім крочыць усё сяло, а паперадзе сяла ўсе Донькавы прыхільнікі -- вясковае падлеткоўства -- паспяшаюць...

Перабудова, сапраўды вялікая і нечуваная, напаткала Доньку-Даніэля пазней, на схіле яго не такой каб доўгай ужо жыццёвай дарогі. А дагэтуль ён жыў і зваўся ў роднай вёсцы то Донькам-выдумшчыкам, то Донькам-чмурыкам, то Донькам-беззаконькам, а то яшчэ меў і больш крыўдную мянушку: Донька-крывая ножка, дурны трошка...

Мянушкі гэтыя выдумваліся на сяле і былі невыпадковымі. Аднак сам Донька на іх нібыта і ўвагі не звяртаў. Калі хто і абражаўся і злаваў на гэтыя мянушкі за Доньку -- дык гэта былі Донькавы прыхільнікі. Заўсёды нечаканы і зменлівы як у сваім абліччы, гэтак і ў паводзінах, не падобны ні на аніводнага чалавека на сяле, Донька быў прывабным, быў рамантычным героем вясковага маленства ўсёй дзятвы, усіх хлапчукоў. Неспакойная Донькава душа і сама хілілася да дзяцінага гурту, і сама ўзносілася над ім, захапляючы дапытлівае дзяцінае ўяўленне хутчэй за ўсё таму, што тут ёй даравалася ўсё -- усе Донькавы дзівацтвы і прамашкі, усе незразумелыя, а таму і судджаныя жорсткім вясковым судом летуценні і парыванні... Бо, памяркуйце самі, чаго толькі не вырабляў, якіх толькі строяў сабе не выдумляў і якой веры не прымаў на сябе Донька!

(У дужках растлумачым, што другое, больш "далікатнае" імя "Даніэль" Донька таксама прысвоіў сабе, вярнуўшыся з чарговай адлучкі, пажыўшы пасля свайго сяла, як сам ён выразна намякаў, сярод "далікатных" людзей).

У сяле дарэвалюцыйным, адсталым, цёмным Донька з'яўляўся раптам у іпастасі скульптара...

Ах, якое захапленне мела ўся вясковая дзятва, а затым і людзі старэйшыя, і па суседніх вёсках таксама, дачуўшыся, як Донька-Даніэль на дзяцінай коўзанцы ў канцы сяла зляпіў аднойчы са снегу валаснога ўрадніка з драўлянай шабляй на баку і прыхадскога бацюшку з ядлоўцавым крапідлам за поясам. [illegible]піў якраз такімі, якімі ўсе [illegible]дзі бачылі іх, калі яны, добра упіўшыся "зелием", тузалі адзін аднаго за грудкі.

Нядзіўна, што на месца "преступления" прыімчаў на тую коўзанку сам урадлік на кані, і [illegible] жа ён і пасек шабляй і сябе [illegible]ога, і бацюшку пасек...

А Донька-Даніэль за сваё майстэрства атрымаў ад урадніка плату: аж некалькі разоў апераваў раменнай нагайкай Донькаву спіну ўраднік.

"Мы, малыя, стаялі і глядзелі на Доньку спачувальна, са слязьмі на вачах.

-- Нічога, -- суцешыў нас Донька, -- мы яшчэ ведаеце-разумееце не такое зробім!

Мы следам рушылі за Донькам, мы цвёрда верылі, што нешта ён прыдумае незвычайнае, каб адпомсціць урадніку..."

І гэта вера і спадзяванне ў Донькаву выключнасць увесь час сцвярджалася тым ці іншым дзівосным вынаходніцтвам Донькі.

Донька-астраном! А гэта касмічная арбіта яго няўрымслівай фантазіі -- хіба яна абмяжоўвала сябе толькі той падзорнай трубой, якую Донька, надумаўшыся назіраць, што адбываецца на небе і на зорах, выпальваў, адшукаўшы ў лесе прыдатны ствол падсохлай кляніны? Можаце ўявіць сабе відовішча таго чакання, таго ўрачыстага моманту, калі, нарэшце, падзорная труба была ўжо гатова, калі для назірання за нябеснымі свяцiламі ў верхавінні стогадовай яліны на ўзлессі была змайстравана назіральная пляцоўка, калі на тую пляцоўку разам з сабою Донька-Даніэль (з выпадку такога ўрачыстага моманту ён быў асабліва чыста апрануты і старанна паголены) дазволіў узняцца і яшчэ чацвярым з яго найбліжэйшых і адданейшых.

"Донька загадаў падаць трубу. Праз момант, прыставіўшы яе да вачэй, -- замёр. Некаторы час усе ўзрушана маўчалі. І сапраўды яснае зорнае неба нібы ярчэй раскрылася нам..."

І адбывалася гэта ўзнясенне да зор на начлезе -- той амаль ужо забытай рамантычнай старонцы духоўнага ўзбагачэння і мужання вясковых хлапчукоў, пра што мы ўсе чыталі з такім хваляваннем у даўнім-даўнім "Бежыным лузе" Тургенева, чыталі ў сучаснага нам украінца Міхайлы Стэльмаха ("Гусі-лебедзі ляцяць"), у татарына Гумера Башырава (дарэчы, даўняга сябра Петруся Броўкі) у яго "Зялёнай калысцы"...

Кім толькі не быў Донька-Даніэль!

Донька -- кравец. Донька -- доктар. Донька -- кавалер. Донька -- паэт і палітык.

Колькі смешнага і кранальнага ў гэтым стракатым абліччы і жыцці. І напэўна, калі б гэта аблічча не было такім камедыйна-бяскрыўдным, напэўна ж не выклікала б яно да сябе такога спачувальнага прыцягнення і сімпатыі...

Донька-дзівак (як даўно сказаў нехта з мудрых: дзівакі ўпрыгожваюць жыццё) -- ён столькі разоў мяняў сваё аблічча і нават -- веру.

"Скажам, калі Донька збіраўся праз колькі тыдняў на фэст, дзе мог заляцацца да хутаранскіх шляхцянак, -- ён адгадоўваў прывабныя вусікі; калі надыходзіў час кірмашу каля нашае прыхадскае царквы, ён меў выгляд такі, як і заўсёды, быў добра паголены. А раптам находзіла на яго і такое, каб наведаць у мястэчку сінагогу, -- тады ён адпушчаў бараду. Аднаго ж разу вярнуўся наш Донька-Даніэль з далёкай вандроўкі, пагаліўшы галаву. Ён нешта тлумачыў пра Алаха, але кім быў той Алах, мы так з ягоных расказаў і не даведаліся".

Не даведаліся, ды ён і не надта патрэбен быў ім, хлапчукам глухога беларускага сяла, той нетутэйшы алах. Ад "свайго" скупога бога ніхто асаблівай ласкі не меў... Зусім іншай справай былі самі Донькавы вандроўкі па далёкіх невядомых гарадах, па чужых сёлах, па нетутэйшых людзях. Водгук тых вандровак не знікаў без следу. Ён западаў глыбока ў дзяцінныя сэрцы, абуджаў у іх неспакой, абуджаў няясную і памклівую трывогу і жаданне таксама нязведаных дарог і вандровак...

Донька ніколі не вяртаўся дадому з парожняй душой. Донькава душа была заўсёды поўная лепшых спадзяванняў і ўзнёслых памкненняў. Ён і свет гэты пакінуў з алоўкам у руках (Донька ж быў і Паэт!), з недапісанымі радкамі, над якімі лунала наіўная Донькава надзея ўратаваць усіх людзей ад смерці (бо Донька ж быў і "доктар"!).

**У лузе, у лесе**
**Буду хадзіць,**
**Буду шукаць зёлку такую,**
**Я ўсіх уратую.**
**Будзеце дзякаваць**
**Веле...**

Радок абарваўся.

Яго дачыталі адданыя Донькавы сябры:

**Будзеце дзякаваць**
**Веле...**
**Вы Даніэля...**

Апошнія радкі, як і самі паэты, не паміраюць...

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

# БЫЛІ, ЁСЦЬ І БУДЗЕМ

## (ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ)

Аб характары беларусаў, асаблівасцях іх душы, светасузіранні і светаадчуванні, а калі адным словам -- аб іх менталітэце -- напісана нямала як знутры саміх беларусаў (А. Кіркор, Я. Карскі, А. Багдановіч, Я. Купала, У. Ігнатоўскі, В. Ластоўскі, А. Смоліч, С. Яновіч і іншыя), так і з пазіцый суседзяў (М. Стрыйкоўскі, А. Міцкевіч, А. Пушкін, Ф. Дастаеўскі, М. Дабралюбаў, К. Падляскі (Б.Скарадзінскі) і іншыя), як у мастацка-публіцыстычнай форме, так і з навукова-рэляцыйных падыходаў. Да апошняга абавязкова трэба аднесці і розныя падручнікі старых і новых часоў, даведнікі і г.д. Натуральна, не ўсё з таго напісанага ўспрымаецца адназначна і безумоўна. Але, як кажуць, напісанае застаецца. А ад сябе дададзім, што да напісанага заўсёды нешта і дадаецца, як і адымаецца.

І вось перад намі адзін з дадаткаў на хвалюючую нас тэму. Гэта "Таямніцы народнай душы" Э. Дубянецкага. Хто стане аспрэчваць актуальнасць такой тэмы, такой кніжкі? Тым больш, калі апошняя вылучаецца, хоць нават і не ў значнай ступені, нестандартнасцю і арыгінальнасцю, калі яе матэрыял як спроба даследавання пададзены адначасова і навукова, і папулярна, калі яна сваім экскурсам у мінулае, аналізам сучаснасці праецыруе ў сэнсе ўмацавання і кансалідацыі этнапсіхалагічнай базы сучаснікаў у дзень заўтрашні, у будучыню. Такімі якасцямі названая работа Э. Дубянецкага якраз і надзелена. "Таямніцы..." распавядаюць аб асаблівасцях беларускага нацыянальнага характару, аб яго адметных пазітыўных і негатыўных рысах, а таксама аб тым, як асновы тых ці іншых гэтага характару кшталтах былі сфарміраваны ў беларусаў на працягу шматгадовай, нават у некалькі тысяч гадоў працы, гістарычнага працэсу. І робіцца гэта праз аналіз разнастайных крыніц: этнаграфічных, фальклорных, літаратурных, філасофскіх. Апошнія прадстаўлены цытаваннем і флагманаў заходняй навукі аб чалавечай душы (З. Фрэйд, К.Г. Юнг, В. Вунд, А. Бергсан і іншыя).

Гаворачы аб станоўчых пачатках беларускага псіхалагічнага ўкладу, аўтар нікольні не педаліруе на гэтым, наадварот, ён прапануе мяккі, збалансаваны варыянт свайго бачання праблемы. Таму і некаторыя "дрэнныя" рысы псіхалогіі беларусаў (напрыклад, пэўны канфармізм, пакорлівасць, нерашучасць, часам самаадмаўленне, залішняе пачуццё вінаватасці перад светам), зноў жа не праз згушчэнне аўтарам фарбаў, нярэдка з'яўляюцца своеасаблівым працягам іх найлепшых маральна-духоўных якасцей -- надзвычайнай талерантнасці, празмернай памяркоўнасці, добразычлівасці, адсутнасці унутранай патрэбы парабаваць суседзяў, пажыць іх коштам і г.д. Адсюль лагічна, што ў паўсядзённым жыцці тыповыя беларусы найчасцей сумяшчаюць, сінтэзуюць адначасова пазітыўныя і некаторыя негатыўныя якасці свайго адметнага, самабытнага характару. І ці не таму вельмі цяжка ідзе ў нас працэс нацыянальна-культурнага адраджэння, сацыяльна-палітычнага ўваскрасення.

Раскрываючы сутнасць нацыянальнага характару як катэгорыі гістарычнай, аўтар адначасова гаворыць і аб уплыве на яго геаграфічнага асяроддзя, вядома, у працэсе складвання. Гэта, у сваю чаргу, дае магчымасць прасачыць некаторую розніцу геапалітычных умоў развіцця насельніцтва розных тэрыторый Беларусі, заканамернасць у з'яўленні адрозненняў і ў характары беларусаў гэтых рэгіёнаў (напрыклад, Усход -- Захад).

Прыемна адзначыць, што аўтар не зацыклены ні на вузканацыяналістычнай, ні на касмапалітычнай прадузятасцях. Радуе адсутнасць славянасабораўскіх установак і памкненняў.

Гаворачы пра структурнае размяшчэнне тэкставага матэрыялу -- то ўсё тут здавальняюча.

Заслугоўвае ўвагі мастацкае тэхнічнае афармленне кні[illegible] якое зроблена на дастатков[illegible] высокім прафесійным узроўні. На пазітыў выдання працуюць і змястоўныя тлумачэнні мастака Пятра Драчова.

А цяпер пашукаем у радку і[illegible] лыка. Думаецца, што, гавора[illegible] аб менталітэце нашага народ[illegible] мала яго параўноўваць толькі з суседзямі; больш прадукцыйна задача ў гэтым накірунку будзе вырашацца, калі мы разгледзім яго ў коле многіх народаў свету, у кантэксце чалавецтва. І не толькі стану яго душы, а і этнагенезу. Гэта дасць нам магчымасць паназіраць, што і наш народ у параўнанні з іншымі мае права "людзьмі звацца", а часам -- і болей. А таму варта ўспомніць бацьку гісторыі, старажытнагрэчаскага гісторыка Герадота, які пісаў у свой час пра неўраў і будзінаў (ці не ад апошніх паходзяць назвы населеных пунктаў "Буда" і вытворныя, а таксама прозвішчы тыпу "Будны", "Будзінас" і г.д.) -- насельнікаў нашай зямлі. Будзіны, па меркаваннях некаторых сучасных вучоных (у нас, напрыклад, І. Юхо), -- нашчадкі кельцкіх плямёнаў; неўры ж (пратаславяне), якія шукалі тут паратунку ад персаў і знайшлі яго, ад узаемасінтэзу ўтварылі і наша славянства -- крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў. Ужо ў тыя далёкія часы нашым продкам добра была знаёма полісная (гарадская) дзяржаўнасць. Яны жылі ў ёй. Безумоўна, адтуль у пэўным сэнсе структурыраваліся Полацкае, Тураўскае, Пінскае і іншыя нашы княствы.

А як не сказаць аб яшчэ адным з падсубстратаў беларусаў -- фіна-ўгорскіх плямёнах. Дарэчы, аб гэтым калісьці пісаў бацька Максіма Багдановіча -- Адам Багдановіч (чытай публікацыю часопіса "Нёман", N 5--8 за 1994 год). Пераканаўчымі ў гэтым святле бачацца шматлікія публікацыі Івана Ласкова. Названыя аўтары свае высновы робяць на аналізе шматаб'ёмнага тапанімічнага і антрапанімічнага матэрыялу. Неабходна, як нам бачыцца, сказаць колькі слоў і пра фіна-ўгорска-балцкі сінтэз -- падсубстрат будучых беларусаў.

Можна было б сказаць і аб татарскай плыні ў беларускім жыцці. Сярод татар нямала было адданых беларускай справе людзей. Успомнім хаця б Г. Канапацкага, С. Александровіча.

На нашай зямлі знаходзілі паратунак у часы контррэфармацыі чэхі, шатландцы, датчане і іншыя. Нездарма, трэба думаць, меў цікавасць (і нават складаў слоўнік беларускай мовы) да Беларусі У. Даль -- сын датчаніна; ёсць меркаванні, што паэму "Тарас на Парнасе" стварыў П. Шумахер -- сын датчаніна і беларускі з-пад Оршы. А далёкі продак М. Лермантава шатландзец Лермонт калісьці знайшоў паратунак ад рэлігійных фанатыкаў у Радзівілаў, а пасля папаў у рускі палон. Адначасова сюды ішлі і місіянеры пратэстанцтва -- кальвіністы, лютэране і іншыя. Гэта іх высілкамі Слуцкі ліцэй у тыя далёкія часы гарантаваў сваім навучэнцам высокі адукацыйны і выхаваўчы цэнз. Прыклады можна было б доўжыць.

Што тычыцца балта-славянскага сінтэзу, пра гэта ў кніжцы паведамляецца дастаткова. Толькі вось гаворачы пра не заўсёды мірны характар асіміляцыі балтамоўнага насельніцтва, варта было б гэта пацвердзіць якім-небудзь прыкладам. Бо браць на веру такое, як і тое, што хрысціянства безбалесна выціскала з нашай зямлі язычніцтва (паганства), неяк не атрымліваецца, хаця многія абрады і звычкі сведчаць менавіта пра ўзаемапранікненне гэтых двух веравызнанняў.

Акцэнтна падзяляючы сваю кніжку на дзве часткі -- станоўчае і адмоўнае ў беларускай душы, аўтар, як мімаволі можа падацца, усё ж сваю ўвагу акцэнтуе больш на негатыве. Калі канкрэтней, гэта адсутнасць у нашых землякоў ініцыятывы, наяўнасць празмернай паслухмянасці, безабароннасць, з-за чаго іх, здаралася, неаднаразова вялікімі партыямі вывозілі заваёўнікі ў маскоўскае рабства, сацыяльна-нацыянальныя анабіёз і анемія. Аднак цалкам з гэтым нават з нацяжкамі пагадзіцца немагчыма. Давайце глянем у гісторыю. Ці не палачане не чале з князем Ізяславам Чарадзеем знялі званы з Наўгародскай Сафіі (1066 год), ці не Альгерд са сваімі воямі браў кантрыбуцыю з Масквы (1372 год), ці не літвінаў Ян Вісліцкі на Грунвальдскім полі назваў сеючымі смерць (1410), ці не Л. Сапега са сваімі прыхільнікамі рыхтаваў для Масковіі Лжэдзмітрыяў (1604--1612 гады). Не забудзем пераможныя бітвы пад Улай, Оршай і іншыя.

Ды і не станем адмаўляць, што наш незайздросны і сённяшні лёс рыхтавалі і нашы продкі, якія наладжвалі ў роднай дзяржаве крывавыя разборкі. Апошнімі ж і былі выкліканы і мяцеж Глінскага, і грамадзянская вайна ў 30-я гады XV стагоддзя. Дынастычная барацьба, скажам, Альгердавічаў, праходзіла пры ўдзеле значнай часткі народа. Ці яшчэ. Польскае "od morza do morza" ідзе з Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, якое і распасціралася паміж Балтыйскім і Чорным морамі. Гэта ў тыя ж часы стаяла пытанне: Вільня ці Масква будзе асноўным жыццезаканадаўцам ва Усходняй Еўропе. Такое можа сведчыць пр[illegible] імперскую сутнасць ВКЛ і пр[illegible]вінаў -- асноўных яго насельнікаў -- як імперскі народ, які ў тыя часы, трэба меркаваць, вызначаўся каланізатарскім духам і поглядам на жыццё, на навакольныя крывіцкія (Ноўгарад, Пскоў, часткова Цвер) і да[illegible], нават неславянскія, землі [illegible]е вяло гэта да падрыву ўнутраных (у першую чаргу) сіл асноўнага этнасу, а потым як адплата -- да замены імперскіх памкненняў на празмерную талерантнасць, залішнюю зматэрыялізаванасць душы. Усё гэта, безумоўна, і да сення запаволіла фарміраванне да канца паўнакроўнага этнасу. Але як бы яно ні было, працэс самафарміравання непазбежны; у нас, праўда, праз страшэнныя пакуты і незлічоныя колькасныя страты. Але і той этнас, што быў, што ёсць, спараджаў і спараджае палітычнае жаданне рабіць на яго стаўку. Так, напрыклад, былая беларуская палітычная праваслаўнай афарбоўкі вярхушка ў Рэчы Паспалітай, апалячыўшыся і акаталічыўшыся, свой народ да гэтага не падводзіла: яна спадзявалася цераз гэты народ вярнуцца да Вялікага Княства Літоўскага. Пазней М. Агінскі падымаў пытанне перад расійскім самадзержцам Аляксандрам І аб аднаўленні княства. А ці вядома шаноўнаму чытачу, што сярод адважных сібіракоў, якія абаранялі Маскву ў 1941 годзе, была незлічоная колькасць беларусаў са спецперасяленцаў ды зэкаў? Аб іх, загінуўшых на франтах другой сусветнай вайны, шмат дзе і ў сібірскіх гарадах і сёлах сведчыць пералік прозвішчаў на абеліcках.

Варта было б сказаць, што аб нетрагічным успрыманні беларусамі гэтага, часта абсурднага свету сведчыць і пазбаўленая неўрастэніі і юродства беларуская мова. І яна, якія б ні выпадалі ёй і надалей выпрабаванні, як і мы, не знікне; яна, як і мы, была, ёсць і будзе. Дарэчы, мовы, як мяркуе сёй-той, так проста не знікаюць. Бяда наша, як і ўсяго чалавецтва, бачыцца больш ва уніфікацыі, стандартызацыі няскладнага жыцця на ўсіх яго ўзроўнях, у знікненні асобы, у невылечнасці ад абшчыны, натоўпу, у адыходзе ад трансцэндэнтнасці. Вунь Англія знікла як імперыя, але як краіне, як народу, дзе нямала асоб, такое не пагражае; наадварот, яна мае вялікую перспектыву на шматвяковае (і на генным узроўні) прыстойнае існаванне.

Хацелася б звярнуць увагу на тое, што аўтар часам блытае паняцці "светасузіранне" і "светапогляд", ставячы паміж імі знак роўнасці цераз эквівалент "ментальнасць". А яны, між іншым, усё ж паняцці розныя, у "ментальнасці" ім месца адведзена як састаўным часткам многааб'ёмнага цэлага.

Адпаведна з вышэйпералічаным (і не толькі) неабходна пашырыць спіс літаратуры, з якой маглі б пазнаёміцца чытачы. Сюды добра кладуцца творы Я. Карскага і А. Кіркора, А. Сержпутоўскага і А. Багдановіча і многіх іншых.

Неяк не ўспрымаецца як натуральнае паняцце "народны фальклор". Фальклор ёсць фальклор, народная творчасць; астатнія "маслы масляныя" тут -- залішнія.

Пералік таго, чаго няма, але што можа быць у наступным выданні, ні ў якой ступені не змяншае значэнне гэтай своечасовай, актуальнай і цікавай кніжкі.

Неабходна яшчэ паведаміць адрасныя даныя кніжкі. Выйшла яна ў выдавецтве "Народная асвета" ў гэтым годзе ў серыі "Гэта ты, мая Беларусь", што заснавана ў 1991 годзе. Адрасавана вучням, калі больш дакладна, школьнікам сярэдняга і старэйшага ўзросту. Аб'ём -- 4,5 уліковa-выдавецкіх аркушаў, наклад -- нязначны (9 100 паасобнікаў).

**Яўген ГУЧОК.**

## КАЛАСАВІНЫ

# "ПАНЁС ЁН ЛЮДЗЯМ ПЕСЕНЬ ДАР"

Аўтобус, што адыходзіў ад Коласавага дома на чарговы фестываль юных музыкантаў, не перапаўняўся людам. Але ж яго насельнікі -- аўтарытэтныя асобы: радня народнага паэта, музейцы, літаратары, дзеячы мастацтва...

Першы традыцыйны супынак -- Акінчыцы. Госці аглядаюць (многія ў каторы раз!) сядзібу, заходзяць у хату, якая падарыла свету вялікага песняра (да 100-годдзя Якуба Коласа набыла яна статус філіяла музея). Як заўсёды, тлумачэнні дае працаўнік першага, Смольненскага філіяла Юрка Міцкевіч.

Галоўнае чакае ўсіх наперадзе. А па дарозе -- ці абмінеш славутую Альбуць! І як не прайсціся "Шляхам Коласа" і "Сцяжынкаю новазямельцаў"! Скульптурныя фігуры з дрэва вяртаюць нас да твораў незабыўнага песняра, а найперш -- да слыннай "Новай зямлі". Кожны аб'ект "атэстоўвае" хораша і віртуозна той жа Юрка Міцкевіч -- Коласавымі радкамі.

Дарэчы, ён унук дзядзькі Юзіка, малодшага брата песняра, што самабытна, таленавіта прапагандаваў творчасць народнага паэта Беларусі.

Аддаўшы належную пашану Альбуцкай сядзібе (тут 3 лістапада 1990 года адкрыўся трэці філіял музея Коласа), святкоўцы-мінчане трымаюць курс у Смольню. У гэтай знакамітай мясціне павінна прайсці літаратурнае свята "Слова пра Коласа". Напярэдадні ішоў адбор лепшых выканаўцаў, назаўтра пераможцаў чакалі ўзнагароды ў Стаўбцоўскім Доме культуры і на стадыёне, а вуліцы горада поўніліся музыкай духавых аркестраў.

Да мікрафона падыходзіць дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. Вітае ўсіх са святам, заўважае, што сёлетні фестываль асаблівы: прысвячаецца 70-годдзю "Сымона-музыкі". Потым перадае слова сыну Якуба Коласа, заслужанаму работніку культуры Беларусі Данілу Міцкевічу. Прамоўца гаворыць пра незвычайнасць тутэйшых мясцін, пра іх адлюстраванне ў творах Якуба Коласа, зазначае, што ў Смольні пасля выхаду з мінскага астрога паэт жыў у сваіх родных і распачаў працу над паэмай "Сымон-музыка". Таму і фестываль адбываецца менавіта тут і носіць назву славутага Коласавага твора.

Успамінамі пра сустрэчы з песняром падзяліўся са слухачамі народны артыст рэспублікі, кампазітар Анатоль Багатыроў. Ён расказаў, як паводле аповесці "Дрыгва" стварыў оперу "У пушчах Палесся".

Святкоўцаў вітаюць і выказваюць словы глыбокай пашаны да памяці незабыўнага песняра пісьменнікі Васіль Зуёнак, Уладзімір Паўлаў, Уладзімір Карызна, Іван Курбека, старшыня журы фестывалю, народны артыст Беларусі Барыс Пянчук, саветнік пасольства Украіны ў Беларусі Валянціна Ешчанка.

Гудзе, весяліцца знакамітая Смольня. Выступаюць музыкі, спевакі, танцоры. Верыцца, што выйдзе з гэтых мілых дзетак (і не адзін!) сапраўдны талент, каб служыць народу.

**Пайшоў Сымон сваёй пуцінай,**
**Бо ён прыроджаны пясняр.**
**Панёс ён людзям песень дар --**
**Агонь душы і сэрца жар,**
**Панёс пяснярскай каляінай.**

**К.СЦЕПАНЮК.**

**НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця свята. Выступае пісьменнік Васіль ЗУЁНАК.**

**Фота У. ГУЗОЎСКАГА.**



# З ГЛЫБІНІ БАЦЬКОЎСКАЙ ЗЯМЛІ





Адрадзіць былое. Такую мэту паставіў перад сабой выкладчык Мінскага вучылішча мастацтваў Іван Кірчук. З першага погляду, нічога асаблівага ў ім няма, акрамя дзіцячай усмешкі і сівых валасоў, якія з'явіліся вельмі рана. Але на працягу гутаркі даведваешся, што Іван Іванавіч незвычайны чалавек. Яшчэ будучы маладым спецыялістам, ён шукае новыя вытокі развіцця і адраджэння беларускіх песень і абрадаў на роднай Бацькаўшчыне. Ужо на другім годзе працы разам з навучэнцамі Кірчук паказвае сваю першую праграму "Свята ў вёсцы", якая здзівіла сваёй самабытнасцю і натхніла сучасную моладзь на вывучэнне беларускага фальклору. Здаецца, любоў да роднай зямлі перадалася гэтаму сумленнаму чалавеку з малаком маці. Яго цікавасць да старажытнасці дапамагла стварыць у родных сценах вучылішча "Янкаву хатку", якая з дапамогай дырэктара Уладзіміра Тарана і выкладчыка Леаніда Скуратовіча ў хуткім часе стала прымаць гасцей не толькі з Беларусі і Расіі, але і з Бельгіі, Галандыі, Польшчы, Францыі, Амерыкі. Упрыгожваюць гэты музей старадаўнія іконы і посуд, здабытыя ў час экспедыцый па беларускіх вёсках. А таксама калекцыя калядных масак "каза", "мядзведзь", "конь" і прыгожы драўляны тэатр лялек "Батлейка", які зрабіў разьбяр А. Муравейка.

Працуючы з фальклорнымі калектывамі "Дзіва", "Дабрадзеі", І. Кірчук прымае ўдзел у велікодным свяце, якое праходзіла ў Беларускім саюзе фалькларыстаў, а таксама ў марафоне "Мост" -- дзецям-сіротам у ТЮГу.

Разам з выпускнікамі вучылішча і таленавітым харэографам Свя[illegible]й Баркоўскай Іван Іванавіч п[illegible]рыхтаваў і паказаў новую, яшчэ нікому невядомую праграму пад назвай "Русальныя розыгры". Гэты матэрыял быў створаны па ўласных экспедыцыях самога аўтара і архіўных запісах фоналабараторыі Ін[illegible]ута мастацтвазнаўства, [illegible]графіі і фальклору АН Беларусі. У ім прысутнічае не толькі гучанне песень, але і танцы, замовы, малітвы, назіранні за прыродай і шмат іншага. Пасля прагляду была дадзена добрая ацэнка кандыдатамі педагагічных навук фалькларыстамі Г. Барташэвіч, Т. Варфаламеевай, В. Ліцвінкам і прафесарам універсітэта культуры С. Дробышам.

Разам з навучэнцамі І. Кірчук прымае ўдзел у святах, якія праходзяць вельмі паспяхова. А таксама запісвае калядныя песні на Рэспубліканскім радыё ў перадачы "Дудка беларуская".

Сёння І. Кірчук (Ян Ліда) -- вядучы фалькларыст, выкладчык, вядомы не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі.

**Аляксандр КРАТОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: мужчынская група гурта "Дзіва"; удзельніца фальклорнага калектыву Яўгенія ФЯДОСАВА.**

**Фота Леаніда СКУРАТОВІЧА.**

# СООБЩЕНИЕ

## О ПРОВЕДЕНИИ ОТКРЫТОЙ ПОДПИСКИ НА АКЦИИ ВТОРОГО ВЫПУСКА ОТКРЫТОГО АКЦИОНЕРНОГО ОБЩЕСТВА "СПЕЦИАЛИЗИРОВАННЫЙ ИНВЕСТИЦИОННЫЙ ФОНД, АККУМУЛИРУЮЩИЙ ИМЕННЫЕ ПРИВАТИЗАЦИОННЫЕ ЧЕКИ "ИМУЩЕСТВО",

## "ЗАПАДНЫЙ"

**ОАО СИФ "ЗАПАДНЫЙ"** зарегистрирован Мингорисполкомом 21 июня 1994 г. (свидетельство серии ГВ-10 N 2782).

**ЗАРЕГИСТРИРОВАННЫЙ УСТАВНЫЙ ФОНД:** 5 000 000 (пять миллионов) рублей разделен на 2 000 простых именных акций номинальной стоимостью 2 500 руб. каждая.

**ОАО СИФ "ЗАПАДНЫЙ"** создан для аккумулирования именных приватизационных чеков "Имущество" и денежных средств и их эффективного размещения на рынке ценных бумаг Республики Беларусь с целью получения экономической выгоды для акционеров фонда.

**УЧРЕДИТЕЛИ:** СП "ЭКСПОЛ" (г. Минск, ул. Революционная, 1а), ИП "ТОРНЕСС" ( г. Минск, пр. Ф.Скорины, 98, к. 162--164), АКБ "ДУКАТ" (г. Минск, ул. К.Цеткин, 16), СП "ГРОДСОУП" (г. Гродно, ул. Пушкина, 39), ООО ПКФ "ОЗОН-1" (г. Минск, пр. Ф.Скорины, 19), Страховое АО "СКИП" (г. Минск, ул. Кропоткина, 44/909), ООО ПКФ "ВАПОР" (г. Минск, ул. Цнянская, 1-32).

**ПРЕДПОЛАГАЕМЫЙ РАЗМЕР УСТАВНОГО ФОНДА** (с учетом первой эмиссии): 250 000 000 (двести пятьдесят миллионов) рублей.

**СУММА ВТОРОЙ ЭМИССИИ:** 245 000 000 (двести сорок пять миллионов) рублей разделена на 98 000 простых именных акций номинальной стоимостью 2 500 рублей каждая.

**РАЗМЕР И ПОРЯДОК ВЫПЛАТЫ ДИВИДЕНДОВ:** согласно Уставу фонда определяется собранием акционеров.

Владельцы акций фонда первого выпуска (в том числе учредители) оставляют за собой право первой очереди при подписке на акции второго выпуска в пределах 50% его объема.

**ОТКРЫТАЯ ПОДПИСКА НА АКЦИИ ПРОВОДИТСЯ** по адресу: 220050, г. Минск, ул. Комсомольская, 6, ежедневно (кроме субботы и воскресенья) с 10.00 до 17.00 в течение 20 дней с момента опубликования настоящего сообщения. Дирекция фонда заключает с подписчиками договоры подписки только на денежные и имущественные инвестиции. В случае недостижения либо превышения подпиской объявленного размера уставного фонда его фактическая величина утверждается общим собранием акционеров в течение 10 дней после окончания подписки.

Собранные по подписке средства аккумулируются на расчетом счете N 10467886 в АКБ "ДУКАТ" (г. Минск, код 767).

Фонд обеспечивает сохранность этих средств до государственной регистрации акций второго выпуска, после него они будут направлены на инвестиции в ценные бумаги и создание необходимых организационных и материально-технических условий эффективной деятельности.

В подписке на акции может быть отказано в случае нарушения подписчиком договора о подписке, непредоставления документов об источниках средств, инвестируемых в акции фонда.

В случае отказа от выпуска акций или признания подписки несостоявшейся собранные средства возвращаются подписчикам в течение 10 дней.

Более подробно об условиях подписки можно узнать из проспекта эмиссии по месту заключения договора подписки.

**Директор ОАО СИФ "ЗАПАДНЫЙ" С.Н.ДУНИН.**

# *СПОРТ*

## СУПРАЦЬ УСЁЙ ЕЎРОПЫ

Фінал розыгрышу Кубка Еўропы па мастацкай гімнастыцы, што прайшоў у Англіі, можна без перабольшання назваць першынством СНД. Перавага спартсменак былога Саюза над прадстаўніцамі іншых краін кантынента аказалася больш чым пераканаўчай. Перамагла ўкраінская спартсменка Кацярына Серабранская. Беларускія гімнасткі Ларыса Лук'яненка і Вольга Гонтар занялі ў мнагабор'і адпаведна пятае і шостае месцы.

Затое адыграліся нашы дзяўчаты ў асобных практыкаваннях. Яны набралі аднолькавую колькасць балаў у кампазіцыі з мячом і ўзнагароджаны залатымі медалямі. Ларыса Лук'яненка яшчэ атрымала "золата" і ў практыкаванні са скакалкай.

## У "РАЎБІЧАХ" ПАД НОВЫ ГОД

Наша лыжная Мека -- спорткомплекс "Раўбічы" -- прыме ўдзельнікаў першага і другога этапаў Кубка Еўропы па фрыстайлу. Спаборніцтвы адбудуцца 25--29 снежня, калі не падвядзе надвор'е. Здаралася і так.

## "ДЫНАМА" МАЦНЕЙШАЕ

Цікавая сітуацыя склалася на фінішы першынства Беларусі па футболу: мінскае "Дынама" і віцебскую "Дзвіну" раздзяляла перад апошнім турам усяго адно ачко. І толькі вочная сустрэча лідэраў павінна была назваць пераможцу.

Шчасце ўсміхнулася мінчанам. Яны забілі сапернікам тры "сухія" мячы.

Цяпер беларускія каманды пачынаюць гульні за еўрапейскія кубкі. Першымі ў барацьбу ўступаюць футбалісты магілёўскага "Дняпра".

## ЗАСТАЛІСЯ Ў СУПЕРЛІЗЕ

Зборная жаночая Беларусі ў чарговым камандным розыгрышы Кубка Еўропы па лёгкай атлетыцы заняла шостае месца. Нядрэнна для дэбютантак. Прычым, у некалькіх відах нашы спартсменкі абнаўлялі нацыянальныя рэкорды.

Так, у бегу на 400 метраў вызначылася Тацццяна Курачкіна, а ў трайным скачку вышэйшае дасягненне Беларусі ўстанавіла Жанна Гурэева. Прызёрамі спаборніцтваў сталі Наталля Шыкаленка (кап'ё), Тацццяна Шэўчык (скачкі ў вышыню) і іншыя прадстаўніцы нашай краіны.

Удалае выступленне каманды дазволіла нашым жанчынам застацца і на наступны год у суперлізе Еўропы.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 2297. Падпісана да друку 3. 7.1995 г.